PL ISSN 0546 - 1960
NR INDEKSU 366714

# Ніва

БЕЛАРУСКІ ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНЫ ТЫДНЁВІК

№ 17 (1876) ГОД XXXVII БЕЛАСТОК 26 КРАСАВІКА 1992 г. ЦАНА 1500 зл.

## ВЕЛІКОДНАЕ ПАСЛАННЕ

Яго Высокапраасвяшчэнства, Высокапраасвяшчэннейшага САВЫ, Архіепіскапа Беластоцкага і Гданьскага Глыбокашаноўнаму Духавенству,Богалюбімаму Манаству і Набожным Веруючым Чадам Беластоцка-Гданьскай Епархіі

ХРЫСТОС УВАСКРЭС!

Па волі Божай мы зноў сталі сведкамі самага вялікага цуду ў гісторыі чалавецтва — светлага ўваскрэсення з памерлых Госпада нашага Ісуса Хрыста.

Сёння ва ўсім праваслаўным свеце чуваць радасныя словы: Хрыстос Уваскрэс — Сапраўды Уваскрэс!

Гэтай сусветнай радасцю мы, праваслаўныя хрысціяне, абымаем кожнага, хто жадае наталіць сваё сэрца пасхальным шчасцем. Праваслаўная Царква гэтыя пачуцці выяўляе ў словах: „Нябёсы таму з годнасцю няхай цешацца, зямля ж няхай радуецца, святкуе няхай жа свет, бачаны жа ўвесь і нябачны: таму што Хрыстос паўстаў — радасць вечная”.

„Не жахайцеся! Шукаеце Ісуса Назараніна раскрыжаванага? Ён уваскрэс; Яго няма тут. Вось месца, дзе Яго пахавалі”. (Мр. 16,6).

„Ён уваскрэс. Яго няма тут”. Гэтая таямнічая праўда ўвайшла ў гісторыю як боская перамога над злом і смерцю. Стала фундаментам Хрыстовай Царквы — карабля збаўлення, пячаццю нашай веры ў Ісуса Хрыста, як праўдзівага нашага Збавіцеля і Цара Сусвету, царству Яго не будзе канца. А Царкву Ягоную не перамогуць ніякія пякельныя сілы.

Дарагія Браты і Сёстры! Блаславёным стаў той ранак, пад час якога праменні ўзыходзячага сонца асвяцілі пустую магілу. Яны асвятлялі Уваскрэсенне Хрыстовае так, як праменні Віфлеемскай зоркі асвяцілі Яго Нараджэнне.

Вучні Уваскрэслага Хрыста ўславілі праўду Яго паўстання самымі лепшымі песнямі і выказалі ў іх асноўную сутнасць пра тое, што Хрыстос сапраўды ўваскрэс з магілы, каб Сваёю смерцю і ўваскрэсеннем даравацъ новы сэнс жыццю: „Правім ютраню надзвычайную і замест свету песню прынясём Уладыку і Хрыста ўбачым праўду сонца, усім жыццё рассяваючую”.

Уваскрэсенне Хрыстова — гэта не толькі гістарычная падзея, дзеля радаснага ўспаміну. Гэта непарушная праўда, якая перамяніла чалавека. Прыкладам таму самі апосталы, у сэрцы якіх, калі з'явіўся Ускрэслы Хрыстос — да гэтага часу перапужаных, разгубленых, няўпэўненых і непрыгодных да якой-небудзь дзейнасці — увайшоў дух радасці, спакою, адвагі, адменная духовая сіла натхніла іх стараннасцю, пры дапамозе якой яны прыхілілі да Хрыста ўвесь свет. Вось такім чынам дзейнічала і дзейнічае Уваскрэсенне Хрыстовае. Апостал Пётр упэўнівае нас: „Мы абвясцілі моц і прыход Госпада нашага Ісуса Хрыста, не пераймаючы хітрасплеценых казак, але бачыўшы на свае вочы Яго веліч” (2 Пят. 1,16).

Без Уваскрэсення Хрыстова былі б мы адно толькі ціхімі вучнямі Хрыста без упэўненасці ў Яго перамогу, без веры ў Яго панаванне, без надзеі і ўпэўненасці ў жыццё вечнае і перамогу праўды над злом, без радасці і пераканання, што мы адкуплены Яго прачыстай крывёю і разам з Ім уваскрэснем. Апостал Павел паведамляе: „А калі Хрыстос не ўваскрэс, то вера наша пустая; вы яшчэ ў грахах вашых. Таму і памерлыя ў Хрысце загінулі. І калі мы ў гэтым толькі жыцці спадзяемся на Хрыста, то мы самыя няшчасныя сярод людзей” (1 Кар. 15,17-19).

Дарагія Браты і Сёстры! Магутная моц Уваскрэсення Хрыстовага і Яго перамогі. Мы, людзі веруючыя, жывем гэтай праўдай, пры яе дапамозе працуем і ствараем новае жыццё. Атрымалі мы яе ў таямніцы хрышчэння, і мы ўваскрэслі для новага жыцця ў Хрысце раскрыжаваным і ўваскрэслым. Смерць граху ўжо болей не пануе над намі (Рым. 6, 8-11).

Хрыстос, дараваўшы нам новае жыццё, стаў Уладальнікам новага чалавека, новага народу, імя якому — Сусвет, Праваслаўная, Адзіная, Святая, Саборная, Апостальская Царква. Гэту праўду мы спаведуем у Сімвале Веры. Праваслаўе — гэта жыццё ў ласцы Божай, якую нам дараваў ва ўваскрэсенні з памерлых Ісуса Хрыста.

Браты і Сёстры! Будзем жывіцца гэтай ласкай і „піць піва новае не ад каменя бясплоднага цудадзейнае, але бяссмерця крыніцы з магілы спаслаўшай дождж Хрыста, у ім жа ўмацоўваемся”.

*(Працяг на стар. 3)*



**Віншуем нашых чытачоў з Вялікаднем!**

*Рэдакцыя і ГП БГКТ*



## ПІШУ ПРА ТОЕ, У ШТО ВЕРУ...

Калі людзі пішуць? — Найчасцей тады, калі ім кепска. Але Надзя Дудзік з Гарадка напісала свой першы верш з радасці. Быў 1936 год.

— Якраз пазнаёмілася я з хлопцам, пакахала яго. Я яго знала чыстага, як слязу, — успамінае. — Сядзеў пяць гадоў за палітыку. Праводзіў мяне лесам 15 кіламетраў — і нічога. Янак Дзярманскі. Рабіў на тартаку. Гарод і маленькая хатка.

Я вышыла яму макатку (ружы і незабудкі) і напісала на ёй верш:

У гэтым вяночку
Складаю жаданні.
Я шчыра жадаю —
Ты гора не знай!
Шчаслівы і горда
Жыві ты для краю,
Мяне іншы раз ўспамінай!

Рашыў ён прыехаць у сваты. Мама — ні за што. Нічога ж ён не мае, жыве ў сястры. Як ты будзеш жыць? З чаго? З працай цяжка. Мама прытварылася хворай — не ўстала нават чарку выпіць. Я сказала: „Мама, мы баршчу пад'ямо, а за крупнік пацалуемся — і будзе добра!” Ён кажа: „Паехалі са мной адразу!” Агарнуў мяне страх: трэба ж зрабіць вяселле, гасцей запрасіць! Адлажылі на два тыдні.

Выйшла я замуж праз тры тыдні, але... за іншага. Той першы аказаўся нягоднікам: было ў яго няшлюбнае дзіця, а на дзяўчыну, маці дзіцяці, нават не хацеў глядзець... — і няўлоўная ўсмешка на ўспамін тых далёкіх часоў блукае на маладым яшчэ твары гэтай 80-гадовай жанчыны. Сёння прыйшла ў рэдакцыю ў элегантным касцюме, ідэальна падабраным па колеру вачэй. А вочы сінія-сінія, быццам неба. І сыпле, як заўсёды вершамі.

З мужам сваім пражыла яна цэлае жыццё, прапрацавала на раллі. 15 гадоў таму назад пахавала яго. Цяпер жыве ў Гарадку адна.

— Адкуль Вы чэрпаеце радасць жыцця? — не магу ўстрымацца, каб не запытаць.

— У мяне ёсць куры, агарод. Іншым

*(Працяг на стар. 8)*

НА МЯЖЫ

## АД ПАЧУЦЦЯ СОРАМУ ДА ПАЧУЦЦЯ ГОНАРУ

### РЭЛІГІЙНЫЯ ДЫЛЕМЫ

Частка XIII

На працягу сямідзесяці гадоў існавання савецкай улады Царква і духоўнікі сурова праследаваліся. Аб тым, у якія аб'екты заменьваліся часта храмы, я ўжо гаварыў. Нярэдка гістарычныя цэрквы і касцёлы знішчаліся толькі таму, што каменні і цэгла з іх сценаў спатрэбіліся калгасу на пабудову, скажам, свінарніка. Нельга прыдумаць нічога болей ганебнага. Што датычыцца святароў, дык многія з іх праследаваліся. Колькі з іх было выслана ў лагеры і турмы, а колькі з іх было пазбаўлена жыцця? Дакладна, мабыць, невядома. Вядома, аднак, што многа. Усе гэтыя крыўды патрабуюць маральнай і матэрыяльнай кампенсацыі. Сказанае, аднак, не абазначае, што Рэспубліка Беларусь мела б стацца клерыкальнай дзяржавай. Прыгнечанасць і зняволенне Царквы і духоўнікаў не абазначае, што сёння царква і духоўнікі маюць стацца ўсемагутнай дамінуючай катэгорыяй людзей, якія запануюць над грамадствам. Думаю, што духоўныя-праваслаўныя, духоўныя-баптысты і духоўныя-уніяты ў ніякім выпадку не сняць не толькі аб ролі і значэнні ісламскіх духоўных у Іране, але і намнога бліжэйшага тэрытэрыяльна духавенства, якое выразна прагне падпарадкаваць сабе ўсё духоўнае жыццё краіны. Веру, што ў незалежнай Беларусі сфармулюецца разумнае гарманічнае сужыццё і супрацоўніцтва духавенства і свецкай улады. Мабыць, на гэты раз тэзіс Дастаеўскага аб тым, што прыгнечаныя і паніжаныя імкнуцца да вызвалення з той мэтай, каб прыгнечваць і паніжаць іншых, не пацвердзіцца.

Зразумела, што як у кожнай катэгорыі людзей, так і сярод духавенства былі, ёсць і будуць розныя людзі. Магу для прыкладу сказаць, што адзін духоўнік з Беласточчыны катэгарычна і рашуча стараўся загадаць мне, каб я не пісаў у „Ніву". Зразумела, што мяне асабіста смешаць людзі з такога тыпу тэндэнцыямі. Але ж і яны неабходныя на свеце, хаця б для таго, каб, сутыкаючыся з неразумным, усведамлялі мы хараство разумнага.

Калісьці геніяльны Ф. Скарына, гаворачы аб палітычнай дзяржаўнай сістэме, напісаў: „роўная свабода ўсім". Вось гэты прынцып, выказаны амаль пяцьсот гадоў таму назад, павінен абавязваць у Рэспубліцы Беларусь. Адны правы і адны абавязкі для ўсіх грамадзян, незалежна ад іх грамадскага стану і іх веравызнання.

Я перакананы, што адраджэнне рэлігійнага жыцця на Беларусі не прынясе прыгнёту і абмежаванняў таксама для вольнадумства і атэізму. Нельга сабе ўявіць, што сярод народу, які жыве ў цэнтры Еўропы ў канцы дваццатага стагоддзя, не ўтрымаецца атэістычная тэндэнцыя. Гэта неабходнасць. Дагэтуль атэісты былі ў БССР катэгорыяй людзей прывілеяваных, „лепшых", з большымі шанцамі на рабоце ў працэсе кар'еры, доступу да дабрабыту. Такі стан рэчаў скончыцца. Глыбокая вернасць якому-небудзь веравызнанню або атэістычная пастава ў найменшай ступені не павінны быць прычынай ані дыскрымінацыі, ані ўзвелічэння.

Сніцца мне такая ступень талерантнасці Беларусі, якая ўжо сёння выступае, напрыклад, у Францыі, дзе вельмі часта члены згоднай гарманічнай сям'і з'яўляюцца моцна веруючымі лібераламі і атэістамі. Зрэшты, нешта такое было і ў даўнім мінулым.

Беларускі пісьменнік XVII ст. Фёдар Еўлашэўскі ў сваім „Дзённіку", уздыхае да тых часоў, калі, як ён кажа, за адным сталом сядзелі людзі розных вераў і згодна пілі з аднаго куфля піва. Як было б добра, калі б такой прыгожай талерантнай краінай для ўсіх вераў іп для бязвер'я сталася Рэспубліка Беларусь.

**АЛЕСЬ БАРСКІ**

## З МІНУЛАГА ТЫДНЯ

**Консульскую канвенцыю** і дэкларацыю аб культурным і навуковым супрацоўніцтве паміж Польшчай і Расіяй падпісалі ў Варшаве намеснік міністра замежных спраў **Ежы Макарчык** і пасол Расіі **Юрый Кашлеў**. Пры нагодзе абодва бакі выказалі надзею, што неўзабаве прэзідэнт **Лех Валэнса** нанясе візіт у Маскву. Падпісаныя ўступна дакументы з'яўляюцца толькі часткай усіх польска-рускіх пагадненняў, якія будуць канчаткова падпісаны прэзідэнтамі Польшчы і Расіі. Вядома аднак, што Лех Валэнса не паедзе ў Маскву, пакуль не будзе заключана дамова аб вывядзенні савецкіх войскаў.

**Украіна** пачне зноў перавозіць са сваёй тэрыторыі ў Расію ракеты з нуклеарнымі боегалоўкамі, заявіў міністр замежных спраў Украіны **Анатолій Злэнка.** 12 сакавіка Украіна спыніла вываз ракет у Расію, матывуючы гэта тым, што не мае яна ніякай упэўненасці, ці сапраўды гэтыя ракеты знішчаюцца.

**9 мая**, у Дзень Перамогі, прэзідэнт Расіі **Барыс Ельцын** падпіша дэкрэт аб стварэнні рускай арміі, якая ў сапраўднасці ўжо існуе. Прэзідэнцкі дэкрэт будзе толькі пацвярджэннем фактаў.

**На думку беларускіх навукоўцаў**, страты, якія пацярпела Рэспубліка Беларусь у выніку аварыі на Чарнобыльскай АЭС, удвая перавышаюць ранейшыя падлікі. Паводле афіцыйных заяўленняў, страты ацэньваюцца на 80 млд. рублёў, а паводле меркаванняў незалежных экспертаў — на 200 млд. рублёў.

**Прадстаўнікі дзесяці канфесій** (Рымска-каталіцкі касцёл. Польская аўтакефальная праваслаўная царква, Касцёлы: адвентыстаў сёмага дня, евангеліцка-аўгсбургскі, евангеліцка-метадыстычны, евангеліцка-рэфармаваны, польска-каталіцкі, свабодных хрысціян, Хрыстовых збораў, Старакаталіцкага касцёла марыявітаў) узгоднілі змест малітваў і запрапанавалі, каб міністр народнай адукацыі загадаў школам іх прымяняние.

**Драматычны тэатр імя А. Вянгеркі** з Беластока ўдзельнічаў у аглядзе „Балтыйская тэатральная вясна" ў Гродне. Беластаччане паказалі два спектаклі: „Тэрмінатар" Петэра Гандке, які рэжысераваў Анджэй Якімец і „Містэрыя аб муках і ўваскрашэнні" ў рэжысуры Яна Скатніцкага. У „Тэрмінатары" выступіў акцёр Купалаўскага тэатра з Менска **Уладзімір Кін-Камінскі.**

**1 мая будзе выхадным днём**, заявіў **Уладзіслаў Вайцяхоўскі** з Дэпартамента арганізацыі Міністэрства працы і сацыяльнай палітыкі.

**У Заблудаве** нарадзілася мёртвае цяля-пачвара — без ног і са здэфармаванай галавой. Лекар ветэрынары паінфармаваў, што прычынай гэтага не з'яўляюцца вынікі Чарнобыля, але тое, што сяляне зараз не прымяняюць інсемінацыйных метадаў апладнення кароў.

## ТЭЛЕФАКСАМ З МЕНСКА

### ТРУБЯЦЬ САЛДАТУ „ЗБОР"

Старшыня Савета Міністраў рэспублікі Вячаслаў Кебіч упершыню падпісаў пастанову аб чарговым прызыве беларускіх хлопцаў на вайсковую службу. Адметна, што гэтым дакументам забаронена накіроўваць у вайсковыя фарміраванні, звязаныя з ядзернай зброяй і іншымі крыніцамі іанізуючага выпраменьвання, юнакоў, якія пацярпелі ад Чарнобыльскай катастрофы. І яшчэ адна асаблівасць прызыву: адпраўка ў вайсковыя фарміраванні юнакоў, якія пастаянна працуюць у сельскай гаспадарцы, ажыццяўляецца толькі пасля 1 чэрвеня.

### ШЛЯХАМ ГАДОЎ

У Менску прайшло пасяджэнне міжнароднага „круглага стала" на тэму „Беларусь у Вялікім княстве Літоўскім". На працягу двух дзён вучоныя з Беларускага дзяржаўнага універсітэта, Інстытута гісторыі Акадэміі навук рэспублікі, Лонданскага і Люблінскага каталіцкага універсітэтаў, Міжнароднай асацыяцыі беларусістаў, Міністэрства адукацыі Беларусі, польскай Акадэміі навук і Нацыянальнага навукова-асветніцкага цэнтра імя Ф. Скарыны вялі дыскусіі аб ролі Беларусі ў Вялікім княстве Літоўскім, асаблівасцях культуры нашай Бацькаўшчыны.

### РАТУЙЦЕ!

16 мая на Беларусі адбудзецца першы рэспубліканскі тэлемарафон. Сродкі, якія будуць сабраны пад час гэтага дабрачыннага мерапрыемства, пойдуць на выратаванне беларускіх дзяцей. На сённяшні дзень з 2 мільёнаў 300 тысяч беларускіх дзяцей 600 тысяч жывуць у Чарнобыльскай зоне, 500 тысяч — хранічна хворыя, 40 тысяч — выхоўваюцца ў дзіцячых дамах і школах-інтэрнатах, 20 тысяч — псіхічна хворыя, 20 тысяч — інваліды.

У апошні час на Беларусі рэзка ўзрасла дзіцячая смяротнасць. Акрамя таго, сёлета ў рэспубліцы нарадзілася на 37 тысяч немаўлят менш, чым пяць гадоў таму назад.

### РЭЧЫ — ЛАМБАРД — ГРОШЫ

Нядаўна ў Менску адкрыўся першы ў рэспубліцы ламбард. Чалавек, якому тэрмінова патрэбныя грошы, можа здаць сюды любую каштоўную рэч. Пад адну закладзеную рэч даецца пазыка не больш, чым у тры тысячы рублёў. А ў выпадку нявыплаты доўгу на працягу трох месяцаў ламбард прадае пакінутую пад заклад маёмасць.

### БУРШТЫН ПАД БЕЛЫМІ КРЫЛАМІ

У Брэсцкай вобласці нядаўна былі знойдзены буйнейшыя радовішчы бурштыну. Па сваіх якасцях „сонечны камень" не горшы за прыбалтыйскі, знаходзіцца ён на глыбіні ад двух да дзесяці метраў. Кошт аднаго такога радовішча ацэньваецца больш чым у 500 мільёнаў рублёў. Калі ж скарб пераапрацаваць ў пацеркі ці іншыя ювелірныя вырабы, то беларуская дзяржава можа атрымаць каля 4 мільярдаў рублёў прыбытку. Для рэспублікі, якая пакуль не мае ўласнага залатога запасу, бурштынавы скарб зараз як ніколі вельмі дарэчы.

### ПАДПІСАНАЕ ЗАСТАЕЦЦА?

Больш за 350 тысяч подпісаў у падтрымку правядзення рэферэндума па пытанню аб адстаўцы Вярхоўнага Савета Беларусі сабрала ініцыятыўная група. Аднак, пакуль яшчэ невядома, ці прызнае Цэнтральная выбарчая камісія сапраўднымі подпісы, зацверджаныя факсімільнымі „аўтографамі" старшыні ініцыятыўнай групы спадара Анцулевіча.

Зрэшты, пакуль чыноўнікі вагаюцца, народ Беларусі ўсё больш настойліва выступае за рэферэндум. Так, згодна сацыялагічнаму апытанню 43,8 працэнта беларусаў заявілі аб сваім намеры прыняць удзел у рэферэндуме. Прычым, 45,4 працэнта рэспандэнтаў паведамілі, што будуць галасаваць за адстаўку цяперашняга парламента рэспублікі.

### ВЯЛІКАЕ СУПРАЦЬСТАЯННЕ

Трэці тыдзень бастуюць шахцёры Салігорска, патрабуючы павышэння заробку і адстаўкі кіраўніцтва вытворчага аб'яднання „Беларуськалій", а таксама прэм'ер-міністра рэспублікі Вячаслава Кебіча. Пакуль што ніводзін з пунктаў ультыматума гарнякоў не выкананы. Супрацьстаянне працягваецца. Акрамя таго, ужо два тыдні галадуюць восем шахцёраў, якія вылучылі такія ж патрабаванні. Стан здароўя галадаючых з кожным днём пагаршаецца. Шахцёры запрасілі ў Салігорск міжнародных экспертаў.

**МІКОЛА ДЗЯБЁЛА**

## ПРАЗ ТЫДЗЕНЬ У „НІВЕ"

* Перад фестывалем царкоўнай музыкі.
* Літаратурныя дэбюты ліцэістаў.
* Культ продкаў - Радаўніца.
* Польшча не адразу стала каталіцкай.
* Ваенныя ахвяры з Паўлаў.

### ПАВЕДАМЛЕННЕ

17 красавіка г.г. ў памяшканнях Беларускага музея ў Гайнаўцы адбылося чарговае пасяджэнне Прэзідыума Галоўнага праўлення Беларускага грамадска-культурнага таварыства. Вырашаліся справы выбарчай кампаніі і кадравыя справы рэдакцыі беларускага тыднёвіка "Ніва". Галоўны рэдактар "Нівы" Віталь Луба падаўся ў адстаўку. У сувязі з гэтым адбыліся выбары новага рэдактара, якім стаў журналіст і літаратар Янка Целушэцкі.

 

## ВЕЛІКОДНАЕ ПАСЛАННЕ...

*(Працяг са стар. 1)*

Шляхам свайго асабістага, духовага абнаўлення прыступім да абнаўлення жыцця нашай Царквы, якая ў гэтым годзе рыхтуецца да гістарычнай падзеі — Памеснага Сабора. Гэты Сабор, вызначаны на 18-23 кастрычніка бягучага года, будзе мець вялікае значэнне для нашае Царквы, калі Бог блаславіць і ён адбудзецца, будзе першым саборам духавенства і свецкіх веруючых. Верым, што ён унясе новы дух у наша царкоўнае жыццё.

У гэты важны, падрыхтовачны да Сабора Царквы час неабходна аднамыснасць, згода і малітва. І ў гэтым духу яднання будзем перажываць святы Святое Пасхі, просячы ва Усявышняга Пераможцы смерці, спаслання ласкі, якая ўспаможа і ўмацуе Святую Царкву.

Дарагія Айцы, Браты і Сёстры! Усіх Вас сардэчна віншую з гэтым шчаслівым Святам Святаў і ўсім жадаю шчодрай пасхальнай радасці, якую апавяшчаюць у пасхальную ноч званы нашых храмаў.

Сваё пасхальнае віншаванне заканчваю словамі апостала Пятра: „Бласлаўлёны Бог і Айцец Госпада нашага Ісуса Хрыста, Які праз вялікую ласку Сваю адрадзіў нас уваскрэсеннем Ісуса Хрыста з памерлых дзеля жывое надзеі, дзеля спадчыны нятленнае, чыстае, неўміручай, захаванай на нябёсах для вас, сілаю Божаю праз веру ўтрыманых, дзеля збаўлення, якое гатова адкрыцца ў апошні час! З гэтага цешцеся, крыху цяпер пажурыўшыся, калі трэба, ад розных спакусаў, каб выпрабаваная вера ваша стала больш каштоўнай, чым гінучае, хаця агнём выпрабаванае золата, дзеля ўсхвалення і гонару і славы ў адкрыцці Ісуса Хрыста, Якога не заўсёды любіце і Якога дагэтуль не бачыўшы, але веруючы ў Яго, радуецеся радасцю невымоўнаю і найслаўнейшаю, дасягаючы, нарэшце, вераю вашаю збаўлення душы" (І Пят. 1, 3-9).

**+ Сава**
**Архіепіскап**
**Беластоцкі і Гданьскі**

*Беласток-Гданьск,*
*Святая Пасха 1992 г.*

# ПЛАШЧАНІЦА

У Вялікую Пятніцу кожны веруючы праваслаўны спяшае ў царкву, на вынас плашчаніцы. Аднак не ўсе ведаюць прычыну, чаму якраз плашчаніца, гэта значыць палатно, на якім напісана ікона пакладзенага ў грабніцу Збавіцеля? Яшчэ адна ікона? Чаму тады веруючы народ так спяшае да яе?

На пачатак факты. У Евангеллі паводле Лукі чытаем: „Тады (...) Язэп (...) родам з Арыматэі (...) прыйшоў да Пілата і прасіў цела Ісусавага і, зняўшы Яго, абвіў **плашчаніцаю** ..." (Лк 23, 50-53; параўнай Мацвей 27, 57-59), а Іаан (19, 38-40) піша: „І ўзялі яны цела Ісуса і абвярнулі яго ў палатно з пахнідламі, як звычайна хароняць яўрэі". Там не рабілі дамавіны — закручвалі цела ў палатно (плашчаніцу). Пасля ўваскрашэння Збавіцеля апосталы Іаан і Пётр, даведаўшыся ад мiраносiц аб пустой магіле, пабеглі пагля́дзець, і, калі ў пячору увайшоў Пётр, убачыў „адну палатніну ды хустку, што была на галаве..." (Іаан 20,6-7).

Вось першыя звесткі пра плашчаніцу. Ад гэтага часу была яна ў вялікім паважанні ў хрысціян. На ёй асталіся сляды крыві Збавіцеля: з ран на галаве — ад цярновага вянца, з ран на грудзях і спіне — ад бічавання і крыжа, на правым баку — ад раны па рагаціне рымскага жаўнера, з ран на руках і нагах — ад цвікоў. Плямы крыві склаліся ў нерукатворную ікону, на якой выразна было відаць аблічча Збавіцеля і ўсю Яго постаць — складзенага ў магілу.

Далейшы лёс плашчаніцы не да канца высветлены. Вядома, што ў першым стагоддзі была ў Іерусаліме. Потым, у час праследаванняў хрысціян, была ў Эдэсе (Малая Азія). Недзе ў V стагоддзі апынулася яна ў Канстанцінопалі — новай сталіцы ўсходняга хрысціянства і сталіцы Візантыйскай Імперыі. Там, у патрыяршым саборы склаўся звычай у Вялікую Пятніцу выносіць плашчаніцу на сярэдзіну храма для ўшанавання.

Калі хрысціянства прыйшло на нашы землі, ушаноўванне плашчаніцы пачалося не адразу. Нагодай, з якое яно распаўсюдзілася, быў, пэўна, факт, што ў пачатку XIII ст. крыжаносцы ўкралі плашчаніцу і вывезлі яе дзесьці на Захад. Тады ў Канстанцінопалі, для падтрымання склаўшагася звычаю, зрабілі малюнак (больш дакладны) Цела Збавіцеля. Пакуль была арыгінальная плашчаніца, ніхто не адважыўся замяніць Хрыстовае крыві фарбамі. Калі ж прыйшло няшчасце — туга, сумаванне па святасці выклікалі жаданне мець памятку. Вось гэты першы малюнак быў прычынай таго, што спачатку ў кожнай мітрапаліі, затым у епархіі, а нарэшце у кожным прыходзе хацелі мець копію таго палатна, якое ўжо нават апосталам было доказам уваскрашэння.

На Захадзе плашчаніца, у абы-якіх умовах, праляжала да канца XIX ст. невядомай для шырэйшых кругоў веруючых. Прыпадак дапамог зацікавіцца ёю. Калі прыдумалі фатаграфію, нехта зрабіў здымак — на негатыве белае палатно дало чорны вобраз, а плямы крыві — белы. І ўгледзелі людзі дзіўны, падобны да многіх ікон вобраз Збавіцеля. Да гэтай пары былі зробленыя шматлікія доследы, аднак, пакуль што каталіцкая Царква не выступіла з афіцыйнай дэкларацыяй на гэту тэму.

Праваслаўная Царква не вяла навуковых доследаў, бо да XIII ст. не было такіх магчымасцяў. Людзі верай прынялі патрэбу ўшанавання плашчаніцы — нерукатворнае іконы смерці і ўваскрашэння. За пасрэдніцтвам плашчаніцы ўсходняе хрысціянства абаранілася перад своеасаблівай містэрыяй Захаду.

Даволі часта ў тэлебачанні можам пабачыць, як людзі заходняе культуры прадстаўляюць Хрыста — ягоную фігуру прыбіваюць да крыжа або кладуць у дамавіну. Ідэя аднолькавая — перанесціся духам у Палясціну і ўсім сабою ўдзельнічаць ва ўваскрашэнні Хрыста, мець сваё месца сярод колішняга натоўпу. Метады здзяйснення гэтае ідэі аднак, як бачым, розныя.

**А. Р.**

# КАЛЯНДАР
## важнейшых свят у Праваслаўнай Царкве

*(паводле новага стылю)*

27.04 — звычайна на другі дзень Вялікадня багаслужбу ў бельскай Уваскрасенскай царкве ўзначальвае блажэннейшы мітрапаліт Варшаўскі і ўсяе Польшчы Васіль;
28.04 — на трэці дзень Вялікадня архіепіскап Сава ўзначаліць багаслужбу ў Ячне;
3.05 — Правадная нядзеля (памінанне памерлых у шматлікіх прыходах);
— у гэты ж дзень ушаноўваецца памяць мучаніка младзенца Гаўрыіла Заблудаўскага; у Заблудаве багаслужбу ўзначаліць архіепіскап Сава;
8.05 — Евангеліста Марка;
10.05 — Жон Міраносіц;
20.05 — Палавіна (Преполовение) Пяцідзесятніцы, — да І сусветнай вайны гэты дзень на нашых землях святкавалі, але бежанства і неспрыяльныя ўмовы пасля яго свята змянілі ў будзень;
21.05 — Апостала Евангеліста Іаана Багаслова;
22.05 — Перанясенне мошчаў свяціцеля і цудатворцы Мікалая з Мір (Малая Азія) у Бары (Італія) — 1087 год;
23.05 — Апостала Сімана Зілота;
24.05 — Роўнаапостальных Кірыла і Мяфодзія — настаўнікаў славянскіх;
4.06 — Узнясенне (Ушэсце) Гасподняе;
5.06 — Прападобнае Еўфрасінні ігумены полацкай (памерла ў 1173 г.);
13.06 — Троіцкая бацькоўская субота;
— у гэты ж самы дзень ушаноўваецца памяць прападобнага Антонія Пячэрскага (пам. 1073) — начальніка ўсіх манахаў (гэтае свята было ўстаноўлена ў 1840 г. там дзе каталікі ўшаноўвалі памяць Антонія Падуанскага, каб адцягнуць быўшых уніятаў ад рымакаталіцтва);
14.06 — Пяцідзесятніца — Сашэсце Святога Духа на апосталаў (на Бельшчыне і Гайнаўшчыне — Клячане, бо людзі першы раз пасля Вялікадня кленчаць у царкве на калені);
15.06 — Дзень Святога Духа;
16.06 — Трэці дзень Святой Тройцы (ушаноўваецца ў Крыначцы, на Грабарцы і ў Такарах);
21.06 — Нядзеля Усіх Святых — загавіны на Пятровы пост (Пятроўка).

---

# НАШЫ КАРАНІ

## XXXIII. Язычаскае засілле

У часы панавання Гедыміна і асабліва княжання яго сыноў Кейстуція і Альгерда тэрыторыя Беларускай дзяржавы (Вялікага княства Літоўскага) вельмі хутка пашыралася за кошт вызвалення з татарскага ярма ўсё новых абшараў, пераважна цяперашніх украінскіх і расейскіх земляў. Разам з гэтым прыбывала праваслаўнага насельніцтва. Усё болей язычнікаў-паганаў: літоўцаў, яцвягаў, жмудзінаў, латгальцаў, а таксама беларусаў, якія жылі ў паганскім асяроддзі, пераважна ў Аўкштоціі і Літве, добраахвотна прымала хрышчэнне па праваслаўнаму абраду. Гэта страшэнна не падабалася паганскім жрацам, а былі імі пераважна літоўскія, яцвяжскія ці жамойцкія мясцовыя князькі-кунігасы і племянная старшызна. Яны рабілі ўсё, каб паўстрымаць сваіх падданых ці сурodзічаў ад прымання хрысціянства. Перш за ўсё не дапускалі да падлеглага ім насельніцтва праваслаўнае духавенства, перашкаджалі дзейнасці хрысціянізацыйных місій, пабудове цэркваў. Затым запалохвалі, асабліва вясковае насельніцтва, пагібеллю, якую быццам бы нясе хрысціянства, помстаю пакінутых паганскіх багоў. Усялякімі спосабамі падбухторвалі язычнікаў супраць праваслаўных, бязлітасна атакавалі самі і нацкоўвалі іншых на прыступаючых да святога хрышчэння або новаахрышчаных сваіх аднаплямёнцаў. Стараліся рознымі спосабамі навярнуць да язычаства тых, хто ахрысціўся. У гэтым змаганні жрацам-кунігасам патаемна дапамагалі крыжакі, якія лічылі Праваслаўе „адшчапенствам", горшым ад паганства. З гэтых прычынаў пашырэнне праваслаўнай веры сярод язычнікаў было справай нялёгкай, небяспечнай, вымагала вялікай ахвярнасці. Але наперакор усяму Праваслаўе перамагала.

Надзвычай зручная для язычнікаў нагода для ўдару па Праваслаўю і перш за ўсё па праваслаўнаму акружэнню князя Альгерда-Аляксандра наступіла каля 1345 года. Тады памерла яго першая жонка, глыбокаверучая праваслаўная княгіня Марыя Яраслаўна, дачка віцебскага князя Яраслава Васілевіча і фактычная ўладальніца вялікага і заможнага Віцебскага княства. І князь Альгерд пад уплывам сваіх паганскіх дарадчыкаў пахіснуўся ў веры хрысціянскай. Ён адчуў сябе няпэўна на віцебскім княжанні, бо як прымак не валодаў правамі на гэты княскі пасад. У яго ўладанні па сутнасці заставалася маленечкае Крэўскае княства, якім надзяліў яго бацька, князь Гедымін.

У тым часе цэнтральным у дзяржаве, Віленскім княствам, з волі таксама Гедыміна валодаў праваслаўны князь Яўнута-Іван. Гэта вельмі не падабалася язычаскай старшызне Аўкштоціі, і яна пачала падбухторваць супраць яго іншых князёў, у тым ліку і ягоных братоў Альгерда і Кейстуція. Альгерд усчаў барацьбу за апанаванне Віленскага княства. У яго сэрцы прага ўлады і пагарда да блізкіх запанавала над сціпласцю і пакорлівасцю хрысціянскага ўладара. Ён звярнуўся за дапамогай да язычнікаў, абапёрся на іх і здабыў Вільню. Яўнута-Іван, уцякаючы і хаваючыся ад Альгерда, адмарозіў ногі і на ўсё жыццё стаў калекам. Пад выглядам змагання са староннікамі Яўнуты пачаліся раз'юшаныя атакі язычнікаў на хрысціянаў, асабліва на блізкіх княжацкаму двару людзей, духавенства. На жаль, князь Альгерд-Аляксандр не станавіўся ў іх абарону.

У тым часе ўславілася сваім велічным подзвігам трох віленскіх вялікамучанікаў: Антоній, Іаан і Яўстафій. З дазволу і ведама Альгерда іх закатавалі на смерць пагане з княжацкага акружэння. Ім будзе прысвечана наступная наша гутарка. Цяпер жа прыпомнім, што язычаскае засілле працягвалася ў Вільні, на шчасце, нядоўга. Альгерд-Аляксандр хутка зразумеў, што спрыяючы язычаству, ён спрыяе злу і цемрашальству. Праз некалькі гадоў адступніцтва і хістанняў аддаліў ад сябе паганаў і вярнуўся на ўлонне Праваслаўя. У далейшым жыцці сваім і панаванні Альгерд-Аляксандр учыніў многа добрага для Праваслаўнае Царквы і яе вызнаўцаў.

**МІКОЛА ГАЙДУК**



 




### МАЕ ЎРАЖАННІ З ПОБЫТУ Ў ЛЕТНЯЙ ШКОЛЕ БЕЛАРУСІСТАЎ

Я — студэнтка трэцяга курса Славянскай філалогіі ў Каталіцкім люблінскім універсітэце (канкрэтна я займаюся беларускай мовай) і ў мінулым годзе, у ліпені, мне давялося быць слухачкай Летняй школы ў Менску (якую нядаўна рэкламавала „Ніва"). Я падумала, што можа кагосьці зацікавяць мае ўражанні з яе і таму пішу вам.

Перад усім мне трэба сказаць, што ў Савецкім Саюзе (бо так тады яшчэ называлася гэтая дзяржава) я апынулася ўпершыню. Гэта, аднак, вельмі дзіўны край, зусім непадобны на Польшчу. Усё ў ім такое велізарнае, мануменатльнае — і будынкі, і вуліцы, і слава герояў Вялікай Айчыннай вайны. Людзі там таксама думаюць зусім па-іншаму, маюць яшчэ праблемы, якія ўжо даўно перасталі нас тычыцца: талоны амаль на ўсё, „візіткі", чэргі за каўбасой, а нават за цукеркамі. Асаблівае ўражанне зрабіла на мяне дошка (якую я бачыла ў будынку фабрыкі „Гарызонт" з фотаздымкамі „ворагаў народу", а побач другая — са здымкамі „перадавікоў працы".

Столькі пра першыя, агульныя ўражанні з БССР. Цяпер пра Летнюю школу беларусістаў. З Польшчы было нас шэсць чалавек, трое дзяўчат прыехала з Чэхаславакіі, адна — з Украінскай ССР, адна жанчына — з Германіі. І гэта ўсё. Я не ведаю, чаму было нас так мала (можа гэта вынік дрэнна праведзенай рэкламы?). Нас размясцілі ў 2-асабовых пакоях у будынку па вуліцы Куйбышава. На два пакоі была адна ванная і туалет, а на кожным паверсе — супольная кухня. У пакоях знаходзіліся таксама радыёпрыёмнікі — так што можна было слухаць перадачы на рускай і на беларускай мовах. Можна сказаць, што жыллёвыя ўмовы былі зусім добрыя, нягледзячы нават на тое, што часова не было гарачай вады.

Харчаваліся мы ў сталоўцы фабрыкі „Гарызонт", дзе перад усім частавалі нас беларускімі стравамі. Галоднымі не былі ніколі.

Штодзённа пасля снедання ў нас былі практычныя заняткі па беларускай мове, а потым лекцыі, якія чыталі вядомыя беларускія вучоныя — А. П. Грыцкевіч, М. І. Ермаловіч, Я. А. Юхо, А. Я. Супрун, Л. М. Шакун, А. А. Лойка, А. І. Мальдзіс і іншыя. Пасля абеду мы звычайна хадзілі на экскурсіі па Менску — былі ў музеях Коласа, Купалы, Багдановіча, у кіно, у Дзяржаўным архіве, у бібліятэцы. На суботы і нядзелі мы пакідалі Менск, каб пабачыць такія слаўныя мясціны, як Мір, Нясвіж, Навагрудак, каб пакупацца ў возеры Нарач ці Свіцязь.

Ноч з 6 на 7 ліпеня мы правялі на старадаўнім народным беларускім свяце Купалы на старажытнай гары Радагошча. Папараці-кветкі ніхто з нас не знайшоў (на жаль), але я спадзяюся, што можа ў гэтым годзе камусьці са слухачоў Летняй школы гэта ўдасца. 3-тыднёвы побыт у Менску даволі пашырыў мае веды ў галіне беларускай мовы, культуры, ведання Беларусі ўвогуле. Я магла таксама прывезці ў Польшчу шмат кніжак, якімі цяпер увесь час карыстаюся.

На канец я падзялюся думкай, што калі хтосьці хоча вывучыцца беларускай мове, яму абавязкова трэба ехаць у Менск і хаця на працягу 2-3-ох тыдняў быць слухачом Летняй школы беларусістаў.

**Барбара Гура, Люблін**



# ФОТА -ВІТРЫНА



Вясна была яшчэ ў пачатку...

*Фота У. Завадскага.*

Настаўніцкія канферэнцыі

### У ЕДНАСЦІ СІЛА

7 і 9 красавіка бягучага года ў школах у Нарве і Бельску- Падляшскім адбыліся канферэнцыі настаўнікаў беларускай мовы. Удзельнічалі ў іх старшыня Галоўнага праўлення Беларускага грамадска-культурнага таварыства **Аляксандр Баршчэўскі**, намеснік старшыні і сакратар ГП **Ян Сычэўскі** і **Валянціна Ласкевіч**, а таксама візітатар Беластоцкай кураторыі асветы і выхавання **Тамара Русачык**.

У Нарве тамашні шматгадовы вопытны настаўнік **Міхась Зубрыцкі** правёў узорны ўрок па граматыцы з выкарыстаннем як дапаможніка школьнага камп'ютэра. У класе-кабінеце беларускай мовы настаўнікі абмяркоўвалі змест новых падручнікаў роднай мовы для VII і VIII класаў, якія зараз ёсць у друку, а таксама спосабы выкарыстоўвання на ўроках некаторых беларускіх газет і часопісаў.

Адбыліся выбары методыка беларускай мовы. Настаўнікі аддалі свае галасы на **Вольгу Сянкевіч** з Гайнаўкі.

Зачытана была заява педагогаў, што адзінай паўнапраўнай камісіяй з'яўляецца выключна камісія асветы пры Галоўным праўленні Беларускага грамадска-культурнага таварыства. Вось поўны яе змест:

*„Настаўнікі беларускай мовы вельмі занепакоены сітуацыяй, якая зараз мае месца ў беларускім асяроддзі, у тым ліку ў галіне асветы.*

*Падзелы і варожыя адносіны паміж асобнымі групамі людзей, а таксама арганізацыямі не ствараюць спрыяльных умоў для развіцця беларускай культуры і асветы, а наадварот знішчаюць усё тое добрае і карыснае, што на працягу дзесяткаў гадоў выпрацоўвалі грамадскай працай дзеячы.*

*Асабліва непакоіць нас факт існавання розных нефармальна створаных камісій, якія хочуць вырашаць за людзей найбольш кампетэнтных, у тым ліку і настаўнікаў.*

*Даводзім да ведама Беластоцкай кураторыі асветы і выхавання, што на канферэнцыі настаўнікаў беларускай мовы, якая адбылася 14 чэрвеня 1991 года ў Бельску-Падляшскім, ніхто не ствараў ніякай асветнай камісіі. Для нас адзінай, усімі адобранай камісіяй з'яўляецца Камісія асветы Галоўнага праўлення БГКТ.*

*Удзельнікі канферэнцыі настаўнікаў беларускай мовы ў Нарве, 7 IV 1992 г."*

Старшыня ГП БГКТ А. Баршчэўскі падзякаваў настаўнікам, якія апрача сваіх асноўных абавязкаў вядуць дэкламатарскія, тэатральныя і песенныя калектывы, якія рыхтуюць моладзь да конкурсаў, якія знаходзяць таксама час дзеля таго, каб павышаць свае веды і рабіць прадметную спецыялізацыю.

Расказаў аб тым, чым зараз займаецца Таварыства, аб стварэнні ў новым 1992/93 навучальным годзе класа з беларускай мовай навучання ў беластоцкім агульнаадукацыйным ліцэі н-р 10 на вул. Звыценства. Заявіў усім прысутным, што БГКТ не ўмешваецца ў справы іншых беларускіх арганізацыяў, але заўсёды Таварыства гатова даць адпор тым, якія перашкаджаюць у яго статутовай дзейнасці. Ён запэўніў, што з боку БГКТ няма тэндэнцыі ваявання ані з Беларускім дэмакратычным аб'яднаннем, ані з якой-колечы іншай беларускай арганізацыяй. Мы нападаць на іншыя арганізацыі не будзем.

У Бельскім беларускім ліцэі старшыня ГП Аляксандр Баршчэўскі расказаў пра Беларусь сёння, аб перспектывах беларускай нацыянальнай меншасці ў Польшчы і аб нядаўна падпісаным пагадненні паміж асветнымі міністэрствамі Рэспублікі Беларусь і Рэспублікі Польшча.

Настаўнік беларускага ліцэя ў Гайнаўцы **Васіль Сакоўскі** заклікаў, каб прадстаўнікі БГКТ часцей наведваліся ў ліцэі. Затым расказаў, якія зараз цяжкасці з падручнікамі для навучання роднай мовы ў агульнаадукацыйных ліцэях. Выказаў свае разважанні, якіх вучняў ліцэі павінны высылаць на навуку ў Рэспубліку Беларусь — ці толькі браць пад увагу ацэнкі з паасобных прадметаў, ці мець тут усебаковы падыход.

**Ян Сычэўскі** праінфармаваў пра новае ў дзейнасці БГКТ, пра курс для настаўнікаў беларускай мовы ў летнія месяцы ў Мінску ды пра арганізаванне таварыствам „Радзіма" адпачынку для ліцэістаў над возерам Нарач (Беларусь).

Настаўнікі былі аднадумцамі ў даволі хвалюючай зараз справе, каб паміж БДА і БГКТ дайшло да згоды. Каб усе жылі згодна ў сапраўды дэмакратычнай нашай краіне.

ЯНКА ЦЕЛУШЭЦКІ

# IDEAŁ — SIĘGNĄŁ BRUKU

### СКАРЫНА ЗГАНЬБАВАНЫ (У БЕЛЬСКУ)

Шматтыражная „Газета Выборчая" ў суботне-нядзельным выпуску ад 11—12 красавіка г.г. падала да публічнага ведама ў Польшчы, што адна з вуліц Гродна, патронам якой дагэтуль быў Уладзімір Ільіч Ленін, афіцыйна названа вуліцай Яна Паўла II. Газета піша: „Пастанова прынята на сходзе жыхароў горада. (?—Ю.Б.). Большасць гэта праваслаўныя, але моцная польская меншасць вызнае рымскі каталіцызм".

Справа новых назваў вуліц у нас, канкрэтна ў Бельску-Падляшскім, знаходзіцца ў такім вось стане.

Ад камунальных выбараў у маі 1990 года бельская Гарадская рада ўвяла назвы вуліц Юзэфа Пілсудскага, Яна Паўла II, кардынала Стэфана Вышынскага і... пасля амаль гадавых перыпетый — Францішка Скарыны.

Усяго 203 дні была вуліца Скарыны ў Бельску. Пад час сесіі, што адбылася 20 снежня мінулага года, Гарадская рада, спасылаючыся на 2 пісьмовыя пратэсты групы жыхароў і нягледзячы на кампраметуючы аўтараў змест ( гл. артыкул „Рэаліі нашых спраў" у „Ніве" ад 29 верасня 1991 г.), пастанавіла адмяніць назву вуліцы. Вынік галасавання быў такі: на 21 прысутных радных 10 галасоў было за знясенне назвы „Вуліца Францішка Скарыны", а 6 асоб устрымалася ад голасу. Справа вуліцы была разгледжана на пачатку сесіі як праблема, патрабуючая неадкладнага вырашэння.

Постаць Скарыны — выпускніка прэстыжнага ў Еўропе Кракаўскага універсітэта, вялікага сына ўсяе Славяншчыны і Рэчыпаспалітай двух народаў — паводле майго разумення як аўтара прапановы мела спрыяць прыбліжэнню і аб'ядноўванню палякаў і беларусаў, католікаў і праваслаўных. Смутная справа вуліцы імя Скарыны быццам лакмусавая паперка многае паясняе, але і спараджае драматычныя пытанні: якім тады мэтам служаць экуменічныя імшы ў Бельску-Падляшскім? як свядомым беларусам жыць у гэтым горадзе?

Імя чалавека сусветнага значэння — святасці беларускай культуры на нашай Бацькаўшчыне зганьбаванае.

Дэмакратыя, дэмакратыя, якая ж ты Пані?

Паўтараючы словы польскага паэта Цыпрыяна Норвіда, трэба сёння сказаць, што ў нашым падляшскім засценку **„ideal — siegnal bruku"**.

**Ю.БАЕНА**

## МАЛАВЯДОМАЯ ВЁСКА

Недалёка Орлі знаходзіцца вёска Тапчыкалы. Яе этымалогія дагэтуль яшчэ не высветлена. Можна меркаваць, што гэтая назва этымалагічная або асабовая — гэта значыць, што можа яна выводзіцца ад прозвішча першага асадніка. Старажылы называюць вёску *Тончыкалы.* Вёска ляжыць на правым беразе ракі Белая. Першая пісьмовая вестка пра Тапчыкалы паявілася ў дакуменце аб заснаванні горада Орля ў 1507 г. Тады на патрэбы новага горада быў забраны тапчыкальскі лес. З гэтага відаць, што Тапчыкалы старэйшыя за Орлю.

У 1512 годзе ўладальнік Орлі Богуш Багавітыновіч — падскарбі Вялікага княства Літоўскага мяняецца з уладальнікам Тапчыкал Іванам Разанцом вёскамі і дае яму ўзамен вёску Стацкоўскае, што ў Слонімскім павеце. Такім чынам Тапчыкалы ўвайшлі ў састаў Арлянскай воласці.

У 1577 годзе вёска Тапчыкалы мела 38,5 валок зямлі, 2 карчмы і 23 каморнікаў. Тут трэба паясніць, што валока ў Кароне абазначала 10,5 га зямлі, а ў Княстве Літоўскім — 21 га. Каморнікамі называлі людзей, якія займаліся межаваннем зямельных надзелаў. Яны рысавалі планы і карты. Пасля каморніцкіх памераў пры дарогах ставіліся белыя жэрдкі і межавыя слупы.

У 1886 годзе вёска Тапчыкалы мела 481 дзесяціну зямлі, у тым ліку 390 дзесяцін зямлі ворнай і агародаў, 72 дзесяціны лугоў і пашы, 19 дзесяцінаў няўгоддзяў. Лесу вёска не мела. Да сёння захаваліся старыя назвы дарог і ўрочышчаў. А вось назвы дарог:

— Вэліка дорога (у Орлю),
— Падбелянска дорога (у Падбелле),
— Коса дорога (у Градалі і Пашкоўшчыну),
— Будыска дорога (у Кашалі),
— Бельска дорога (у Бельск-Падляшскі),
— Шэрнёвска дорога (у Шэрні),
— Стенка (у Спічкі).

Сярод назваў палёў сустракаем па два разы назвы Пувлочок (палавіна валокі) і Наддаток, а таксама асабовыя назвы Ондрыхоўшчына і Нарковшчына. Апошняя назва паходзіць, праўдападобна, ад малдаўскага або балгарскага імя Нарко.

**МІКАЛАЙ ЛЯШЧЫНСКІ**

## КНІЖНЫ КІРМАШ

II Беластоцкі кніжны кірмаш, арганізатарам якога была выдавецкая фірма „Тотус", адбыўся ў цеснаватай зале НОТ у днях 3-5 красавіка г.г. Удзел у ім прыняло звыш трыццаці выдаўцоў, пасрэднікаў і прадаўцоў з Польшчы і некалькі фірмаў з Беларусі. Польскія выдавецтвы прапанавалі перш за ўсё кніжкі, якія добра прадаюцца, а менавіта крымінальную і эратычную літаратуру, даведнікі аб тайнах бізнесу і камп'ютэрах, дапаможнікі для вывучэння моў.

З Беларусі на кірмаш прыехалі выдавецтвы „Беларусь" і „Красіко", малыя прадпрыемствы „Стары свет" і „Лідэр", Беларускі філіял Творчага аб'яднання Савецкага фонду міласэрнасці і здароўя, Мінская фабрыка каляровага друку. Госці прывезлі з сабою з два дзесяткі кніжак як узор сваёй прадукцыі. Былі гэта прыклады дзіцячай літаратуры (казкі і маляванкі) і энцыклапедычна-альбомныя выданні („Іканапіс Беларусі XV-XVIII ст.ст.", „Скорина", „Беларускі каляндар на 1992 г."). Купіць іх было нельга, але была магчымасць заказаць іх у арганізатара кірмашу. Галоўнай мэтай прыезду на кірмаш выдаўцоў з-за усходняй мяжы былі размовы наконт супрацоўніцтва ў галіне паліграфіі. Польскія фірмы вельмі зацікаўлены друкаваннем сваіх кніжак у беларускіх друкарнях, паколькі там друк намнога таннейшы, чым у нас. У перагаворах ставілася справа стварэння двух інфармацыйных цэнтраў, у Беластоку і Менску, з мэтай абмену інфармацыямі аб магчымасцях выдавання польскіх кніжак і аб патрэбах чытацкага рынку. Узнікла таксама ідэя супольнай друкарні. Беларускі бок запрапанаваў будынкі і людзей для работы, польскі — сучаснае паліграфічнае абсталяванне.

Кірмашу, які карыстаўся поспехам у аматараў кнігі, спадарожнічалі літаратурная сесія і спатканне з паслом Уладзімірам Цімашэвічам.

„Чалавек і вартасці на паграніччы культур" — гэта тэма літаратурнай сесіі, якая адбылася ў Філіяле Варшаўскага універсітэта. Польска-беларускага пагранічча датычылі даклады Тэрэсы Занеўскай („Свет пагранічча ў лірыцы Яна Чыквіна") і Сакрата Яновіча („Пісьменнік пагранічча — беларуска-польскі аспект"). У сваім выступленні звярнуў ён увагу на высыханне крыніц, з якіх чэрпае пісьменнік — бард прападаючага ў выніку асіміляцыйнага прагрэсу племені. Беласток, у які ўцякаюць беларусы з вёсак, — разважаў пісьменнік, — выратоўвае, але і змяняе іх — напаўняе жываты і пустошыць сэрцы. Пісьменнік пагранічча прадвяшчае заняпад шчыльна замкнутых культур, а нацыянальныя меншасці — гэта не толькі аб'ектыўная рэчаіснасць, а дабрадзейства, аказія для фармавання адкрытых і талерантных адносін.

Спатканне з паслом У. Цімашэвічам было арганізавана з мэтай рэкламы ягонай кніжкі „Czas odwetu" — успамінаў з апошніх трох гадоў яго палітычнай дзейнасці. Саавтарам кніжкі з'яўляецца беластоцкі журналіст Артур Смулко, а выдаўцом — фірма „Тотус". Кніжка павінна быць цікавай, паколькі яе герой меў асабісты ўплыў на тое, што дзеялася ў Сейме Х склікання. У. Цімашэвіч у час спаткання сказаў, што ў кніжцы адкрывае ён кулісы і дае яркія ацэнкі палітычных здарэнняў. У сваіх апініях і інтэрпрэтацыях не стараецца быць стрыманым, што ўчыніць аповесць цікавай, але можа прынесці аўтару і судовыя працэсы. Кніжка выйдзе друкам у чэрвені г.г.

Арганізатар кірмашу — выдавецкая фірма „Тотус" — намерваецца працягваць такое мерапрыемства ў будучым. Трэці кірмаш плануецца восенню, у больш прасторных памяшканнях Акадэмічнага цэнтра культуры.

**ВІТАЛЬ ЛУБА**




*На кірмашы можна было пaглядзець і купіць цікавыя выданні.*

****************************************************************************************************

## ПАКАЦІГАРОШАК

Важнай падзеяй на XXI Варшаўскіх тэатральных сустрэчах, а таксама і для беларускага культурнага жыцця быў спектакль „Пакацігарошак" („Turlajgroszek") у пастаноўцы прыватнага тэатра „Вершалін" з Беластока. Аўтары — Пётр Тамашук і Тадэуш Слабадзянак, жыхары Беластока. Назва тэатра навязвае да гістарычных падзей на Беласточчыне ў даваенны перыяд, калі дзейнічала тут рэлігійная секта Ільі Клімовіча, які за мэту паставіў сабе стварыць новую сталіцу свету — Вершалін. Ідэя ўзнёслая, але і супярэчная з рэчаіснасцю, знайшла гордае перайманне ў практыцы тэатра. Аўтары „Пакацігарошка" прадставілі культурнае сумежжа, поўнае парадаксальных матываў. Дзеі адбываюцца ў праваслаўным сялянскім асяроддзі, а потым пераносяцца ў неакрэслены урбаністычны пейзаж, каб у канцы вярнуцца да пачатковай сцэнэрыі.

Галоўным героем з'яўляецца дзіця, званае далей Пакацігарошкам. Бацькі (тыповыя бедныя сяляне) аддаюць свайго сына праезнаму гандляру, дзеля лепшай яго будучыні. Дзіця знаходзіцца сярод натоўпу гандляроў, а настаўнік-чорт прывучае яго да зладзейства, жабрацтва і рэлігійнай прафанацыі. Хлопчык, хаця і таленавіты, не можа прывучыцца да паганага рамяства. За яго душу змагаюцца дабро і зло. Каб атрымаць самы каштоўны скарб — ласку і каханне — Пакацігарошак паўзе да бацькоўскай хаты, а як сімвал пакуты коціць ён перад сабой гарох. Дзякуючы дапамозе прыхільных сіл, хлопчык дапаўзае да бацькоўскай ласкі. Аднак не атрымоўвае яе. Бацькі, убачыўшы залаты гарох, не заўважаюць дзіцяці.

П'еса прадстаўлена ў традыцыях казкі. У даступнай кожнаму ўзросту форме і простым змесце п'есы вылучаецца жорсткі, парадаксальны кантэкст. Жыццё ва ўмовах матэрыяльных нястач нясе з сабой непрадбачаныя рэзультаты. Метафізічныя вартасці — каханне, прабачэнне, слава і пакута маюць тут сваю цану. Не можа герой дабіцца славы і багацця, бо „бацькоўская" этыка вучыць пакоры і пакуты. Бацькі не ў стане даць дзіцяці славы і кахання, бо не ўмеюць зразумець сваіх пажаданняў, адарваных ад этыкі.

Рэлігійная перспектыва пазбаўлена правіцыяльнай набожнасці. Абрады праваслаўнай царквы містычна адкрываюць тайны чалавечага існавання, граху і святасці.

У п'есе адсутнічаюць палітычныя і нацыянальныя акцэнты.

„Пакацігарошак" — спектакль, прадстаўлены лялечнымі і персанальнымі ўдзельнікамі. Галоўную ролю выконвае Марк Тышкевіч. Варта назваць і астатніх: Яланта Рынкоўская, Аліна Гельнеўская, Іза Дамброўская, Здзіслаў Рачынскі, Рышард Далінскі, Аляксандр Скаўронскі і Лех Ольчак. Рэжысёр Пётр Тамашук надзвычайна ўдала падабраў тыпы герояў. На ўвагу заслугоўвае сцэнаграфія Міколы Малешы. У простай і сціплай дэкарацыі закранута спецыфіка этнаграфіі Беласточчыны. Музыка Крыштафа Дзермы напамінае беларускія народныя песні. Дасканалую кампазіцыю ствараюць ляльк Мірослава Салаўя.

Варта сказаць, што спектакль атрымаў GRAND PRIX на XV Агульнапольскім фестывалі лялечных тэатраў у Аполі і I узнагароду за сцэнаграфію, першую ўзнагароду за п'есу і II узнагароду за музыку. На XXIX фестывалі польскага сучаснага мастацтва ў Вроцлаве журы прызнала аўтарам п'есы I узнагароду, а журналісты вылучылі „Пакацігарошак" як найлепшую фестывальную прэзентацыю. Пётр Тамашук атрымаў узнагароду клуба 1212 за рэжысуру, а калектыў — прыватную прэмію Марыі Нуроўскай.

На XXI Варшаўскіх тэатральных сустрэчах „Пакацігарошак" не быў успрыняты з вялікім энтузіязмам і зацікаўленнем. На жаль — на беларускай сцэне „Пакацігарошак" не заўважаны. А мне здаецца, што гэта не будзе нічым нязвыклым. Пётр Тамашук у адным з інтэрв'ю пратэстуе супраць беларускіх традыцыяў у п'есе, называючы іх „культурай пагранічча". Але гэта як правіла ў беларускай культурнай рэчаснасці. На жаль, аўтары не заўважаюць гэтага парадоксу.

**ГАННА КАНДРАЦЮК**

# ЛІТАРАТУРНЫЯ СУСТРЭЧЫ

Беларускае аб'яднанне студэнтаў праводзіць курс беларускай мовы — складаецца ён з дзвюх частак: лекцыі па беларускай літаратуры (кожную пятніцу а 18 гадзіне) і заняткі па практычным веданні мовы (у суботы перад абедам). Дзеля вывучэння літаратуры студэнты запрашаюць у Беласток відныя постаці літаратурнага жыцця ў Беларусі. І вось 3 красавіка госцяй студэнцкага „інстытута мовы" была паэтка з Менска, аўтарка гістарычных доследаў, галоўны рэдактар газеты „Культура" Вольга Міхайлаўна Іпатава.

Тэмай лекцыі, з якою Вольга Іпатава выступіла перад студэнтамі, была „Жанчына праз стагоддзі". Дакладчыца расказала пра ролю і лёс жанчыны ў беларускай гісторыі, пачынаючы ад Рагнеды, а завяршаючы на Марылі Верашчацы, натхняльніцы Адама Міцкевіча. Займальную аповесць спадарыні Іпатавай узбагачалі дэталёвыя расказы пра ўсялякія сітуацыі, якія суправаджалі збор даследчыцкага матэрыялу. На пытанне з залы, якая жанчына з нашага ці мінулага, стагоддзя мае шанц стацца яркаю зарою беларускай гісторыі, Вольга Іпатава адказала, што паводле яе асобаю такою з'яўляецца Цётка.

З выпадку сустрэчы Вольгі Іпатавай з беларускімі студэнтамі ў Беластоку варта адзначыць тое, што быў гэта першы візіт паэткі ў Польшчу — выявіўся тут адзін арганізацыйны недахоп усяго мерапрыемства. Дзеяцкая эліта Беларускага аб'яднання студэнтаў да таго рупілася пра арганізацыю сустрэчы, што ў канцы канцоў не аказалася для спадарыні Іпатавай правадніка па Беластоку. Цэлы дзень, нібы ў турме, прасядзела яна ў гатэлі. Здарылася гэта ў самай свабоднай і дэмакратычнай на ўсход ад Одры краіне Еўропы. Сваю памылку студэнты хутка выправілі, а ўпрысутнасці Вольгі Іпатавай у Беластоку скарыстала яшчэ Літаратурнае аб'яднанне „Белавежа", якое склікала на 5 красавіка свой адмысловы семінар.

На семінары „Белавежы" Вольга Іпатава расказвала пра культурна-літаратурныя падзеі ў Беларусі. Падзеяў гэтых, з увагі на пераломнасць гістарычнай хвілі, нельга зараз аддзяліць ад палітычнага жыцця, таму Вольга Іпатава засяродзілася перад усім на дачыненнях літаратурнага асяроддзя да тых палітычных перамен, якія праходзяць у рэспубліцы. На Украіне, гаварыла яна, нацыянальны рух узначалілі пісьменнікі, яны змаглі паўплываць на свядомасць сваіх дэпутатаў (Краўчук — камуніст, але нацыянальны). У Беларусі ж пісьменніцкія эліты ўплыву такога не праявілі, у выніку чаго выявілася, што пісьменнік у Беларусі не карыстаецца тою сілаю, якая ў змозе кшталтаваць грамадскую думку. Пісьменнікі аказаліся затое майстрамі ў паклёпніцкай кампаніі супроць Васіля Быкава, які ў свой час падтрымаў Беларускі народны фронт, а ягонае слова і зараз мае сваю важкасць у беларускай грамадскай думцы.

Чытацкая публіка, гаварыла Вольга Іпатава, якая дагэтуль была, засталася і надалей, але, мяркуючы паводле падпіскі літаратурных часопісаў, новых чытачоў не аказалася. Уражанне такое, што ўсе тыя структуры пісьменніцкага саюза могуць развaліцца. Асабліва крытычна выказваюцца маладыя стваральнікі літаратуры, маўляў, навошта нам тыя саюзы. Пад нагамі пісьменнікаў старэйшага пакалення трашчыць зямля, а яны робяць выгляд, што нічога не дзеецца.

Агульная колькасць беларускіх выданняў, сказала Вольга Іпатава, у выдавецтвах рэспублікі, улічыўшы ў гэта і рускамоўныя выданні на беларускія тэмы — 23 %.

Нашы пісьменнікі дапытваліся ў Вольгі Іпатавай пра тое, аб чым даўно ўжо таўчэцца ў нас на ўсялякіх форумах — чаму беластаччанін не можа глядзець беларускае тэлебачанне, чаму нельга ў Беластоку купіць у кіёску беларускую газету з Беларусі? Ці так цяжка накіраваць антэну ды ўзмацніць хвалю? З пастаўкаю газет таксама ж не клопат. Тым больш, што кожная дзяржава, якая рупіцца пра свае меншасці ў замежжы павінна старанна „апрацоўваць" мазгі суродзічаў праз сродкі інфармацыі. Ва ўсім свеце так робяць — чаму б у Беларусі не. Спадарыня Іпатава адказала, што без змены ўрада гэтыя пытанні, праўдападобна, не вырашацца. Зараз міністэрствы рэспублікі насаджаныя людзьмі, якія ў паасобнасці і нядрэнныя, але наогул далёкія ад беларускасці.

На заканчэнне сустрэчы з Беларускім літаратурным аб'яднаннем „Белавежа" Вольга Іпатава падзялілася прыемнай для нашага тыднёвіка рэфлексіяй. У гады маладосці беларускіх пісьменнікаў, сказала Вольга Іпатава, „Ніва" была для іх самай беларускай газетай ды не ўспрымалася імі як замежная.

**АЛЯКСАНДР МАКСІМЮК**
**Фота аўтара**



*Мікола Гайдук, Вольга Іпатава і Ян Чыквін*

# СВЯТКАВАННЕ ЎГОДКАЎ 25-ГА САКАВІКА Ў АЎСТРАЛІІ

74-я Угодкі Абвяшчэння Незалежнасці Беларусі Актам 25-га Сакавіка 1918 г. былі афіцыйна адзначаны беларускай грамадой г. Сіднея ў нядзелю, 29-га сакавіка... З самай раніцы беларусы з усіх куткоў Сіднейскай метраполіі пачалі накіроўвацца ў праваслаўную царкву амерыканскай юрысдыкцыі ў прыгарадзе Бэнкстаўн, дзе айцец Вен'ямін адслужыў адмысловы малебен за беларускі народ і пажадаў яму найлепшых поспехаў у канчатковым дасягненні незалежнасці.

Святочная акадэмія пачалася а 1-ай гадзіне дня ў Беларускім доме ў Фэйрфілдзе. Прысутныя з належнай увагай выслухалі расказ ды ўспаміны С.Шаўцова аб жыцці і змаганні беларускага народу, пачынаючы з 20-х гадоў, якія ён сам перажыў ды быў сведкам варожых планаў знішчэння нашай нацыі... Нягледзячы на пажылыя гады і вялікую адлегласць часу С. Шаўцоў з надзвычайнай яркасцю зрабіў агляд тых змагарных падзелаў, якія назаўсёды застануцца вельмі важнай часткай гісторыі Беларусі і якія давялі да аднаўлення незалежнасці Беларусі ў наш час.

Пасля адчытання дасланых Міхасём Лужынскім і Міхасём Зуем прывітанняў афіцыйная частка акадэміі закончылася супольным адспяваннем беларускага нацыянальнага гімна „Мы выйдзем шчыльнымі радамі". Усе, без вынятку, былі перакананыя, што ў хуткай будучыні ўвесь беларускі народ будзе пачынаць свой нацыянальны гімн словамі „Мы **выйшлі** шчыльнымі радамі"!!!

Сяброўкі з жаночага камітэта ізноў падрыхтавалі святочны абед, які быў благаслаўлены айцом Ігарам і які працягваўся ў прыемным настроі да позняга вечара...

**АЛЕСЬ АЛЕХНІК**

# ДЗЕЛЯ ДОЛАРАЎ

Амерыканцы кажуць, што наведніку з іншай краіны, які пабываў адно ў Нью-Йорку, Амерыка можа падацца зусім не такой, якая яна ў сапраўднасці. Нью-Йорк падманьвае чалавека сваім касмапалітызмам — гэта ўжо не амерыканскі горад, а нейкая шматнацыянальная фантасмагорыя. Праўдзівы амерыканскі дух, маўляў, захаваўся толькі на правінцыі — у невялікіх і сярэдніх гарадках (гэтае вызначэнне ахоплівае сабою таксама „гарадкі" з насельніцтвам блізу мільёна чалавек). Вёска ў такім культурна-„будаўніча"-гаспадарчым комплексе, да якога мы прызвычаены на Беласточчыне, у Амерыцы не выступае. Значыць, мае занатоўкі з Амерыкі (Нью-Йорка, на самай справе) ніяк не пасягаюць на правa агульнасці высноваў, што тычыцца амерыканскага жыцця. Кожны штат — гэта як бы асобная міні-дзяржава (гаспадарства, як казаў Янка Станкевіч), з асобнымі адміністрацыяй і законамі. У некаторых штатах далей дзейнічае так званы сухі закон (нельга туды ўвозіць алкагольных напіткаў і, зразумела, гандляваць імі; людзі добрыя, а як жа тады даюць сабе рады тыя, што, пасварыўшыся з жонкай адчуваюць патрэбу кульнуць пару дрынкаў?! — мабыць, сядаюць у аўта і шпараць у суседні штат, сотні міляў ад свайго дому; вось табе і Амерыка!). На днях адзін мой сябра з Усходняй Еўропы наведаў Каліфорнію: Макс, тамака зусім іншая Амерыка, чымсьці тут, у Нью-Йорку, казаў ён пасля тае паездкі. Дык вось што — у самой Амерыцы „існуе шмат Амерыкаў", зусім адрозных ад сябе, нягледзячы на тое, што паўсюды плоціш зялёнымі доларамі. У некаторых штатах (прыкладам, у Пенсільваніі) жыве рэлігійна-нацыянальная грамада так званых „амішаў" — людзей, якія пераехалі з Еўропы ў Амерыку ў 17 стагоддзі і сяліліся сукупна, каб захаваць сваю рэлігійную апрычонасць, якой у Еўропе пагражаў наступ каталіцкай контррэфармацыі. Пасля трох стагоддзяў яны ўсё яшчэ захоўваюць сваю старажытную мову (нешта, на мой слух, падобнае да сярэдневяковай галандскай альбо ніжненямецкай) і свой лад жыцця — не прызнаюць аніякай лекстрыкі ні тэхнікі, ні іншых здабыткаў цывілізацыі, ездзяць сабе брычкамі, і плюваць ім на ўсякія камп'ютэры. Жывуць з сельскай гаспадаркі — зразумела, не ўжываюць штучных угнаенняў, так што збыт на сваю прадукцыю маюць някепскі. Апранаюцца так, як іхнія продкі тры стагоддзі таму, і нікога гэта не здзіўляе. Дальбог, гэта магчыма толькі ў Амерыцы, дзяржаве эмігрантаў з розных краін і культурных традыцый. Нешта невымоўна-шчымлівае кранула душу, калі я пабачыў адну сям'ю „амішаў" на аўтобусным вакзале ў штаце Агая.

Але — вернемся ў Нью-Йорк. Гэтая сусветная метраполія (пуп свету, кажуць некаторыя) складаецца з пяці адміністрацыйных адзінак (boroughs), якія маюць асобнае самакіраванне (муніцыпальныя рады): Мангатан (Manhattan), Бруклін (Brooklyn), Куінс (Queens), Бронкс (Bronx) і Стэйтэн Айленд (Staten Island). Мангатан — сэрца Нью-Йорка — гэта востраў, абліваны з аднаго боку Гудзонам (Hudson River), а з другога — Усходняй Ракой (East River). Staten Island — таксама востраў. Бруклін і Куінс займаюць частку Доўгага Вострава (Long Island), які сваім усходнім канцом урэзваецца ў Атлантык. Long Island — гэта урбаністычная сукупнасць, якая адміністрацыйна прыналежыць іншым паветам (counties), чымсьці New York City. З Нью-Йорка да самага крайняга места на Доўгім Востраве (Montauk) — 120 міляў (адлегласць ад Беластока да Варшавы, больш-менш). Бронкс ляжыць ужо на кантынентальнай частцы Амерыкі. Але таго, што Нью-Йорк з'яўляецца, практычна, горадам на астравах, зусім не адчуваеш. Нью-Йорк з ваколіцай займае абшар, роўны прыблізна чацвёртай часткі тэрыторыі Беласточчыны.

Цяжка сказаць, ці так званыя „карэнныя амерыканцы" сёння складаюць у Нью-Йорку большасць насельніцтва. Вонкавае ўражанне токое, што не. Але зноў жа і наступная цяжкасць — каго кваліфікаваць у катэгорыю карэнных амерыканцаў? Самы дакладны адказ: карэннымі амерыканцамі з'яўляюцца адно амерыканскія індзейцы. Адылі яны нідзе ў Амерыцы не складаюць большасці, знаходзячыся тут сёння на статусе, хутчэй за ўсё, выгнаннікаў ва ўласнай краіне. Значыць, трэба глянуць болей талерантна: карэннымі жыхарамі Амерыкі (ЗША)

НІНА АМЕЛЬЯНЮК

# ГУТАРКІ АБ МОВЕ

IV. СУЧАСНАЯ БЕЛАРУСКАЯ ЛІТАРАТУРНАЯ МОВА. ЛЕКСІКАЛОГІЯ.

## 10. Галіцызмы — працяг.

Рашаючым момантам адаптацыі запазычаных слоў з'яўляецца лексіка-семантычнае асваенне. „Яно заключаецца, па-першае, у разуменні гэтых слоў даволі шырокім асяроддзем носьбітаў прымаючай мовы, па-другое, у пераасэнсаванні іх — набыцці імі новых значэнняў, магчымасці пераноснага ўжывання і, нарэшце, уключэнні ў лексіка-семантычную сістэму прымаючай мовы".1

Ёсць розныя спосабы адаптацыі запазычаных слоў з французскай мовы.2

1. Пэўная частка слоў замацавалася ў беларускай мове без істотных зменненняў у сваёй першапачатковай семантыцы, напр.:

франц. *gelatine* — бел. *жэлацін* сумесь бялковых рэчываў жывёльнага паходжання, раствор якой пры ахаладжэнні пераходзіць у студзяністы стан,

франц. *portrait* - бел. *партрэт* вобраз якога-небудзь чалавека на карціне, фатаграфіі асоб у мастацкім творы;

2. Большасць слоў замацавалася ў беларускай мове з семантыкай, не адэкватнай іх семантыцы ў французскай мове. Вялікая іх колькасць семантычна мадыфікавалася ў напрамку звужэння свайго значэння, напр.:

франц. *bijouterie* вытворчасць ювелірных вырабаў; гандаль ювелірнымі вырабамі, ювелірны магазін; ювелірныя вырабы — бел. *біжутэрыя* жаночыя ўпрыгожанні, зробленыя з некаштоўных камянёў і металаў;

франц. *meuble* 'мэбліроўка, хатняя абстаноўка; юр. рухомая маёмасць' — бел. *мэбля* 'прадметы абстаноўкі памяшкання'.

Звужэнне сэнсавай структуры слова звязана перад усім з тым, што ў мовах-пасрэдніцах і ў беларускай мове для выражэння гэтых значэнняў меліся свае ўласныя сродкі. Змены ў семантыцы запазычаных слоў адбываліся пераважна ў мовах-пасрэдніцах.

3. Мнагазначныя словы французскага паходжання маглі замацоўвацца ў беларускай мове толькі з нейкім адным значэннем. На прычыны запазычання такіх слоў беларускай мовай уплывала таксама іх гісторыя ў мовах-пасрэдніцах. Напрыклад:

франц. *puree* 'страва з працёртай агародніны або фруктаў; разм. галеча, беднасць, убогасць; перан. густы туман' — бел. *пюрэ*, страва з працёртай агародніны або фруктаў;

франц. *surtout* 'шырокая верхняя вопратка; вялікая ваза; тачка для перавозкі багажу' — бел. *сурдут* мужчынскае верхняе адзенне накшталт пінжака з доўгімі, да каленяў, поламі, з адкладным каўняром.

4. Некаторыя галіцызмы пад уплывам рускай або польскай моў мянялі не толькі сваю форму, але і значэнне і траплялі ў беларускую мову з новым, невядомым французскай мове значэннем, напр.:

франц. *citron* 'лімон, плод лімоннага дрэва; жоўты матылёк' — руск. *ситро*, бел. *сітро* 'пітво, напітак';

франц. *estrade* 'невялікае ўзвышша ў пакоі, звычайна для ложка, стала, стулаў; узвышша для выступаючых перад публікай ' - руск., бел. *эстрада* ' пляцоўка для канцэртных выступленняў; наогул канцэртна-відовішчныя выступленні'.

5. Ёсць і такія словы французскага паходжання, якія набылі дадатковыя значэнні або зусім змянілі іх у беларускай мове, напр.:

франц. *banquet* 'урачысты абед, на які запрашаецца многа гасцей'— руск. *банкет* 'урачысты званы абед або вячэра' — бел. *банкет* 'урачысты абед ці вячэра з нагоды чаго-небудзь або ў гонар каго-небудзь', дыял. 'папойка на другі дзень пасля вяселля; вечарынка з музыкай';

франц. *corset* 'пояс для сцягвання жаночай таліі і жывата; медыцынскі пояс; састаўная частка мясцовага правінцыяльнага касцюма'— польск. *gorset* 'пояс на шнуроўцы, які сцягвае фігуру і падтрымлівае грудзі; безрукаўка'— бел. *гарсэт* 'шырокі пругкі пояс, які носяць пад сукенкай для сцягвання таліі і надання стройнай фігуры; састаўная частка беларускага народнага жаночага касцюма ў выглядзе безрукаўкі; бандаж, які носяць на верхняй частцы тулава пры захворванні або скрыўленні пазваночніка', дыял. накідка на падушкі; безрукаўка; станік; цёплая верхняя вопратка без рукавоў.

„Той факт, што словы французскага паходжання пераасэнсоўваліся ў працэсе іх засвоення беларускай мовай, сведчыць пра арганічнае ўваходжанне іх у яе лексічную сістэму. Развіваючыя як раўнапраўныя элементы гэтай сістэмы, яны развівалі ў ёй фразеалагічныя і сінанімічныя сувязі.

Некаторыя словы французскага паходжання (такія, як *банкет, барыла, булён, буфет, гарсэт, прэзент)* замацаваліся ў беларускіх народных гаворках, што таксама з'яўляецца важным прызнакам глыбокага іх пранікнення ў беларускую мову".3

---

1 Т.А. Мальцава, Да семантычнага асваення галіцызмаў у беларускай мове, у: Беларуская мова, вып. 9, Мінск 1981, с. 91.

2 глядзі: Т.А. Мальцава, ..., с. 92—99.

3 там жа, с. 100.

# ПІШУ ПРА ТОЕ, У ШТО ВЕРУ...

(працяг са стар. 1)

разам іду ў лес. Бяру паперу ад канапкі і нейкім алоўкам-агрызкам, што заўсёды валяецца ў кішэні, думкі запішу. Цешуся натурай, светам, які мяне акружае. Я на свой век — яшчэ чалавек!!!

Каляжанкі лямантуюць:  
Даражэюць лекі!  
А я да доктара не хаджу  
Ї не йду да аптэкі.  
Я у поле, ў лес хаджу —  
Гэта мае лекі!

Ну, і ёсць яшчэ дзеці. Тры дачкі. Найстарэйшая з трыццаць восьмага года, яна ў Сэйнах, за вайскоўцам. Другая — у Беластоку, у гуртоўні працуе, а муж слёсарам. А наймешая — побач са мною, у Гарадку. На фабрыцы „Каро" робіць, а муж прыватна. У сорак тры гады я яе нарадзіла, гэту сваю апошнюю дачку. Хаця была я невялікага росту, дзіця важыла 5 кілаграмаў і 20 грамаў... — на нейкі момант жанчына аціхла, акунулася думкамі ў тое, што мінула і ўжо можа вярнуцца толькі ва ўспамінах.

Надзея Дудзік нарадзілася не ў Гарадку, а ў вёсцы Плянты.

— Пасля Каралёвага Моста ёсць гасцінец на Крынкі, да якіх 22 кіламетры. Не даязджаючы 7 кіламетраў да Крынак — Плянты, — кажа яна і пачынае гаварыць вершам:

Я ў беднай вёсачцы радзілася,  
Дваццаць тры годзікі жыла,  
Сярпочкам ў полі збожжа  
жала  
Ї на чужы загон за грошы  
йшла.  
Тады прыладамі бывалі  
Каса, сярпок, зімою — цэп,  
Ї ўсе так цяжка працавалі  
На гэты чорны з жорнаў хлеб.  
У жорнах жыта ўсе малолі,  
Касой касілі сенакос,  
У лес па ягады хадзілі,  
А потым ў Крынкі хтось  
занёс.  
Прадаў іх там па дзесяць  
грошай  
(Такая іх была цана),  
Ї ўсе хадзілі з нашай вёскі,  
Н е думайце, што я адна.

Надзя Дудзік усё сваё жыццё была актыўным чалавекам. Адразу пасля вызвалення ад немцаў была першай жанчынай — раднай у Гарадку. Была раднай не толькі гміннай, але павятовай і ваяводскай.

Ї вершы заўсёды пісала. Для сябе пісала. Выступала часамі на сцэне з імі. Часамі штось у „Ніве" паявілася. У гарадоцкай мастацкай самадзейнасці брала ўдзел.

— Запрашалі мяне на ваяводскія з'езды народных творцаў, — кажа паэтка. — Прачытала я вершы па-беларуску.

— Чаму ж не на польскай мове? — запытаўся дырэктар Здзіслаў Падканьскі з Галоўнага праўлення Саюза народных творцаў у Любліне.

— То ж не будзе ў мяне ні рытму, ні рыфмы!

— А цяпер пішуць без рытму і рыфмы, — кажа ён.

— Дык гэта ж не будзе верш! — узмалілася я. — Зрэшты, я пра чарцей, як модна сярод польскіх творцаў, не пішу, бо ў іх не веру. Пішу пра тое, у што веру!

А было гэта на апошнім з'ездзе, на якім я была, 16 сакавіка 1986 года. Думала я цэлую ноч і рашыла ўсё ж напісаць. Ї напісала ўсё, як было на з'ездзе.

Гартаю тоўсты сшытак, запісаны вершаванымі думкамі Надзеі Дудзік.Дзвюма лісткамі чатырохлісцевай канюшыны заложаны той польскі верш.

Wszystkiego tam było — i pili, i jeli,  
Tylko że o narodowościach  
Tośmy zapomnieli.(...)  
To Stowarzyszenie to twórcy ludowe  
I my, Białorusini, powinni mieć słowo.  
Kto winien, że ja jestem z Białostocczyzny  
Chociażby z Sokółki, Krynek czy Bielska!  
A może jak kiedyś to „Unia Lubelska"?!

— Выслала я гэты верш у Люблін, але адказу не атрымала. Больш мяне не запрашалі. А мо з'ездаў не было... — з жалем канстатавала наша госця.

АДА ЧАЧУГА

*Фота Анатоля Хоміча*

# НЕ ЗАБЫЎСЯ...

Чарговы груз гуманітарнай дапамогі з Германіі прыбыў у Барысаў. Яе размеркавалі сярод асобных удзельнікаў ліквідацыі чарнобыльскай аварыі і перасяленцаў з забруджаных раёнаў. Падарункаў прывезлі толькі 70, а патэнцыяльных атрымальнікаў набралася да чатырохсот чалавек. Пасля размеркавання ўзнікла нямала крыўд. Незадаволеныя пачалі літаральна штурмаваць тэлефоны мясцовых улад і патрабаваць свой кавалак.

Факт звычайны для сённяшній беларускай рэчаіснасці. Цікавасць жа выклікала зусім іншае. Суправаджалі груз кіраўнікі службы дапамогі мальтыйскага ордэна з горада Віслок Рольф Крэмер і Тэадор Вольф. Апошні ў 1944 годзе знаходзіўся ў Барысаве ў лагеры для ваеннапалонных. Яшчэ тады ён пазнаёміўся з барысаўчанкай, якую наведвае ўжо не ў першы раз. Ї цяпер не пакідае ў бядзе ні яе, ні жыхароў Барысава.

Я. КЛІМКОВІЧ

# МУЗЕЙНЫ ФОНД

Грамадскі камітэт пабудовы Музея помнікаў беларускай культуры праводзіць збор грошай на пабудову музея. Ахвяраванні трэба дасылаць на адрасу: Bank Spółdzielczy w Hajnówce, nr konta 905217-1922-132-3, а ў замежнай валюце: Narodowy Bank Polski, I Oddział w Białymstoku, nr rachunku walutowego 5021-24325-152-6787.

Жыхары Беларусі грашовыя ахвяраванні могуць уплачваць на рахунак 141713 у Рэспубліканскім жылсацбанку горада Менска.

**Спіс чарговых ахвяравальнікаў:**

3934. Васіль Навіцкі (Орля) — 50.000 зл.
3935. Фірма „Амега" (Бельск) — 15.000.000 зл.
3936. Аліна Пракаповіч (Беласток) — 50.000 зл.
3937. Праваслаўная парафія ў Дубінах — 54.800 зл.
3938. Праваслаўная парафія ў Гайнаўцы — 1.600.000 зл.
3939. Праваслаўная парафія ў Нараўцы — 260.000 зл.
3940. Праваслаўная парафія ў Нарве — 300.000 зл.
3941. Праваслаўная парафія ў Белавежы — 222.000 зл.
3942. Праваслаўная парафія ў Кузніцы-Бел.— 96.000 зл.
3943. Праваслаўная парафія Святога Мікалая ў Беластоку — 1.300.000 зл.
3944. Праваслаўная парафія Уваскрашэння Гасподняга ў Бельску-Падляшскім — 300.000 зл.
3945. Праваслаўная парафія ў Чыжах — 71.400 зл.
3946. Праваслаўная парафія ў Саколцы — 280.000 зл.
3947. Сума з адкрыцця скарбонкі ў ГП БГКТ ў Беластоку — 735.200 зл.
3948. Праваслаўная парафія ў Гіжыцку — 25.000 зл.

Дзякуем.

Наш адрас: Społeczny Komitet Budowy Muzeum Zabytków Kultury Białoruskiej, 17-200 Hajnówka, ul. 3 Maja 42.

# ЗОРКА
СТАРОНКА ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ

## ГАСЦІНЕЦ

Ёсць у мяне ў лесе адна любімая палянка. А на гэтай палянцы, бы той табурэт, сухі пянёк. Не адну я на ім вясну сустрэў, не адну восень праводзіў. Насупраць гэтага пянька стаіць чэзлая асінка, уся пáдзяўбаная дзятламі.

Вось сяджу я неяк веснавым днём на сваім пні і лясную гамонку слухаю, дыхаю водарам расліннасці, што абудзілася ад зімовага сну.

Раптам на асінку папаўзень сеў. Спінка ў птушкі блакітная, брушка светлае, зграбны куртаты хвосцік. У дзюбцы птах, бачу, лясны арэх трымае. Вось ён спрытна ўторкнуў яго ў шчыліну ў кары і на мяне цікаўна пазірае. Быццам сказаць хоча: во, гасцінец табе прынёс. Бяры яго, вельмі смачны.

Птушка тоненька ціўкнула і знікла ў лесе.

— Ну і папаўзень, ну і штукар! — падзівіўся я. — І дзе ён яго толькі знайшоў цяпер, вясной?!

Я ўзяў гасцінец. Не арэх, а цуд — буйны такі, важкі. Так і хочацца пакласці на зубы.

Пакруціў я гасцінец у пальцах ды назад ў шчыліну паклаў. Каб гэта восенню, дык можна б было з'есці. Ці ж мала іх у лесе. А зараз, вясною, калі ў звяроў і птушак усе запасы канчаюцца, нельга. Гэта ж для птаха сапраўдная знаходка. Няхай птушка лепей сама яго спажыве.

**Рыгор Ігнаценка**



Велікодныя прывітанні ад Ліліянкі, Гані і Алесі Сарапеняў з Віцебска. Фота Паўла Сарапені.

## ДЛЯ САМЫХ МАЛЕНЬКІХ

ВІКТАР ШНІП

### ЦІ ЁСЦЬ ТУТ ПРАЎДА?

На сцяжыне ля ракі
Заяц садзіць буракі.
Дзве сарокі-белабокі
Над ракой пасуць аблокі.
З хлева выбегшы баран
Паламаў у нас паркан.
Ну а муха трапятуха
Мне ўвесь дзень гудзіць навуха,
Што на сцежцы ля ракі
Прараслі баравікі,
Што сарокі-белабокі
Разагналі ўсе аблокі,
А разумненькі баран
Нам пафарбаваў паркан...
Хто адкажа зараз мне:
Што тут праўда, а што не?

### ШЭРАНЬКІ КАТОК

Па сцяжынцы скок ды скок
Скача шэранькі каток.
Дзеці выпусцілі з хаты
І ў катка сягоння свята.
І забыўся ён пра гора —
Не пускалі ў хату ўчора.

### ВОЖЫК

Пад густой ялінкай вожык
Аб каменьчык вострыць ножык.
Захацеў ён зрэзаць шышку
І парадаваць ёй мышку.
Ды шкада, бядак, не знае:
Ён, як птушка, не лятае,
Каб узняцца на ялінку
З шышкамі знайсці галінку.

### КУРАНЯТЫ

З раніцы ля хаты
Ходзяць куранятЫ,
Курыцыны дзеткі
Жоўтыя, як кветкі.
Клічу куранятак,
Сыплю ім зярнятак.
Ды яны не чуюць —
Між сабой ваююць.

## ДЗЕТКАМ (І БАЦЬКАМ)

Запомнім маленькі вершык:

### ДРЭВА ЖЫЦЬЦЯ

Ведай, дзетачка,
найпярша:
цела — кветачка,
плён — душа!..

Ці ўсё разумееце?.. Вось дрэва: напрыклад, яблыня альбо вішня. Вясной, напачатку лета яно ўсё пакрываецца кветкамі, прыгожымі й духмянымі. Потым кветачкі ссыхаюць і ападаюць, а на іх мейсцы высьпявае плён — яблыкі альбо вішні, спажыва для чалавека.

Гэта — звычайныя дрэвы. А Дрэва Жыцьця — гэта ўвесь сьвет, бачны й нябачны. На ім расьце ўсё, у тым ліку й дрэвы, й чалавек...

Вось наша цела: галава, рукі, ногі, тулава ... Усё разам абдымаецца адным словам — цела. Яго можна памацаць, убачыць ...

У целе жыве душа: наша радасьць і сум, нашы думкі, нашы мары і ўспаміны ... Душа — нябачная, яе немажліва памацаць, можна толькі адчуць. Але яна — наша Я — самае істотнае ў нас. Безь яе — калі мы сьпім — нас быццам і няма ...

Цела, як кветачка: спачатку маладзенькае й прыгожае... Потым яно старэе, ссыхаецца... і памірае... Целы нашы, як пялёсткі, ссыпаюцца ў зямельку... А душы — падымаюцца ў Неба, да Бога, да жыцьця вечнага, — як плён, які жывіць Нябёсы... Можа зоркі — гэта ёсьць сьвятло душ нашых, нашых добрых учынкаў і думак, яны ўпрыгожваюць неба ...

Вось такі плён — душа наша — высьпявае на вечным Дрэве Жыцьця.

Паўторым вершык, цяпер мы ўсе разумеем, што ён азначае:
*ведай, дзетачка, найпярша:*
*цела — кветачка, плён — душа!..*

І яшчэ адзін вершык. Ён адрасаваны дзяўчынцы. Але й кожны хлопчык павінен разумець, пра што ў ім гаворыцца:

*

*... розум — гэтага мала...*
*веды — яшчэ не сьвятло...*
*хачу, каб ты адчувала*
*сэрцам — Дабро і зло...*

*

Розум — гэта нашы думкі, уменьне разважаць пра тое, што адбываецца вакол нас. Веды — усё, што мы помнім — з таго, што чулі, бачылі, чыталі... І розум, і веды нашы мы трымаем у галаве ...

А сэрцам мы адчуваем, ці добрае, ці злое робім мы самі альбо іншыя людзі. Калі хлопчык крыўдзіць дзяўчынку альбо слабейшага хлопчыка — гэта нядобрае, гэта злое. Калі абараняе ад крыўдзіцеля — гэта добрае. Калі мы дапамагаем старэнькім, зьнямоглым людзям, чужому гору — гэта добрае. Калі абыякавыя да чужой бяды — гэта нядобра... І ўсё гэта мы адразу адчуваем с э р ц а м ...

У сэрцах нашых месьціцца дабро і зло, сэрцам мы адчуваем у жыцьці і ў саміх сабе добрае і злое, спрыяем добраму, супрацьстаім злому. Таму аднаго толькі розуму й ведаў чалавеку мала, трэба яшчэ чуйнае, добрае сэрца, якое адкрывае крыніцу жыцьця — Бога. Бог ёсьць найвышэйшае Дабро. Гэта — наш агульны Бацька, які сатварыў усіх нас, зямлю й неба, сонца і зоркі, усё-усё... Але Ён — нябачны, як і наша душа. Жыве Ён — у нашых сэрцах і высока-высока ў небе, над зоркамі. І сэрцам мы адчуваем Ягоную ласку, як і ласку бацькоў нашых зямных...

Запомнім яшчэ два вершыкі — пра нашу Бацькаўшчыну, наш Край ...

*

(з народнага)

*... блакіт нябёс... і белы бусел...*
*і кветкі ў полі, як абрус ...*
*мой Край завецца Беларусьсю ...*
*а сам я — хлопчык-Беларус ...*
*блакіт нябёс... і белы бусел...*

*і кветкі ў полі, быццам хустка.*
*мой Край завецца Беларусьсю ...*
*а я — дзяўчынка-Беларуска ...*

Беларус, Беларуска — гэтыя словы разумеюцца ў шырокім сэньсе: гэта — усе грамадзяне вольнае Беларусі, усе, хто тут нарадзіўся, узгадаваўся, аддаў сэрца й працу свайму Краю... ці яшчэ толькі абуджаецца для гэтага...

*

P.S. Той, хто прачытае ўсё гэта, можа спытацца: а навошта тут столькі шматкроп'яў?..

Яны — як паўзы ў музыцы... як цішыня... яны — для роздуму... для разваг... для тлумачэньня... для сумоўя — зь дзеткамі й між сабою...

Памятайма: у музыцы паўзы, цішыня — ня менш значныя, чым гучаньне... У цішыні адгукаюцца, запамінаюцца, спасьцігаюцца тыя мелодыі, што мы пачулі... Гэта — як Быцьцё й Нябыт, як сон і ява, як жыцьці й сьмерці: адно без аднаго — немажліва ...

Але гэта ўжо — тэма асобнай гаворкі... мажліва — наступнай ...

**ЗЬНІЧ**

*( Тэкст падаецца згодна правапісу аўтара)*




**МАЛЮНКІ ШКОЛЬНІКАЎ.** Я вучуся ў першым класе. Мы з Юлькай ходзім да настаўніцы на англійскую мову. Аднойчы пані папрасіла, каб мы намалявалі нейкіх звяроў. Юлька намалявала звяроў у краме, а мне было іх шкада, і я намалявала іх на волі...

**Ада Семянюк**

### ГУЗІК

Прыйшла Надзя са школы і сказала:

— Бабуля, у мяне гузік адарваўся. Прышый.

— Нясі, унучачка, іголку з ніткай.

Прынесла Надзя іголку і шпульку нітак, аддала бабулі.

— Вочы мае дрэнна бачаць, — сказала бабуля. — Прадзень нітку ў іголку.

Надзя прадзела.

— А зараз вазьмі гузік, прыкладзі яго да паліто, вось сюды. Укалі іголку ў дзірачку. Так, правільна, цяпер у другую.

Надзя зрабіла так, як гаварыла бабуля, і не заўважыла, як гузік прышыла. Потым ужо сама агледзела ўсе гузікі на сваім паліто і сукенках. Дзе слаба трымаліся, падмацавала.

— Можа, і табе, бабуля, трэба дзе гузік прышыць? Давай я прышыю.

Знайшоўся такі гузік на ватоўцы — матляўся на адной нітцы. Надзя адарвала яго зусім і прышыла нанава.

— Дзякуй табе, бабуля, — з усмешкай сказала Надзя.

— За што дзякуй? Ты ж сама ўсё зрабіла.

— А за навуку.

**В. Хомчанка**

## Прыгоды мышкі Пік-Пік

### МЫШКА ПІК-ПІК ПЛЫВЕ ЗА БАНАНАМІ

Аднойчы тата прынёс Веранічцы банан і сказаў, што банан гэты прыслала малпа з далёкага вострава ў моры. Банан вырас на высокай пальме, яго грэла яркае сонейка, таму смак ён меў незвычайна салодкі. Мышка Пік-Пік з'ела кавалачак, якім яе пачаставалі, і з тых часоў усе марыла, каб трапіць туды, дзе расце такое смакаўё.

А на вуліцы была вясна. Снег растаў, ператварыўся ў шматлікія вясёлыя ручаі. Веранічка вельмі любіла пускаць па ручаінах свае караблікі і бегчы за імі ўслед. І вось калі тата зрабіў ёй новы караблік з пустой скрыначкі, Веранічка пабегла на вуліцу займацца любімай гульнёй. Котка Пепіта таксама вырашыла пагрэцца на сонейка, і мышка Пік-Пік наважылася прайсціся для апетыту.

Любімая Веранічкіна ручаінка сцякала з горкі праз увесь двор. Веранічка асцярожна паклала караблік на яе струмень. І тут мышка ўспомніла пра бананы на далёкім востраве.

— Гэта шанц, — падумала мышка і скочыла ў скрыначку-карабель. — Паплыву за бананамі!

І тут скрыначка імкліва паплыла наперад, Пік-Пік адчула, што падае, і са страху заплюшчыла вочы: гэта ручай сцякаў з горкі. Пасля карабель, перагружаны тоўстай мышкай, паплыў павольна, нарэшце спыніўся: у канцы двара ручай стварыў вялізную лужыну, пасярод якой стаяла бяроза. Мышка расплюшчыла вочы: вакол была вада, наверсе шамацела галлё — караблік прыбіла да самага дрэва.

— Прыплыла! — узрадавалася мышка. — Вось мора, вось пальма, а дзе бананы?

Прыглядзелася і заўважыла на тонкіх галінках бяроз зялёныя прыгожыя каташкі.

— Бананы! Яшчэ не саспелі. Ну, усё роўна трэба пакаштаваць. Вылезла мышка з мокрай скрынкі і палезла на бярозу. Справа была нялёгкая і нязвыклая, але мышка, натхнёная ўспамінамі пра смак банана, ускараскалася да ніжняй галінкі, села на яе — і хутчэй сарвала і сунула ў рот веснавы каташок. Ён быў такі горкі, што Пік-Пік прыйшло ў галаву, што гэта не зусім банан. Каштаваць далей ёй расхацелася, час быў вяртацца дамому. А як? Агледзелася мышка: унізе — вада, родны дом — далека. Звесіла яна хвосцік і расплакалася.

А тут прыбеглі да лужыны Веранічка і Пепіта. Яны сачылі за караблікам, але не змаглі за ім угнацца. Веранічка была ў гумавых боціках, таму смела перайшла лужыну, падняла свой карабель і зняла з галінкі мышку Пік-Пік.

Усю дарогу дадому мышка сядзела ў кішэні Веранічкі надзьмутая і злосная. І ў норцы сваёй доўга яшчэ адплёўвала горкі „недаспелы банан". А пасля супакоілася: усё-ткі прыемна, што ты — першая мышка, якая самастойна пераплыла мора і ела бананы, седзячы на пальме!

**ЛЮДМІЛА РУБЛЕЎСКАЯ**



## ПАГЛЫБЛЯЙ СВАЕ ВЕДЫ

### БЕЛАРУСКІЯ ПОМНІКІ ЗА МЯЖОЙ

Кожны народ ганарыцца сваімі помнікамі: гістарычным асобам, палітычным дзеячам або кампазітарам, спевакам, музыкантам, пісьменнікам. Помнікі гэтыя нібы вехі на гістарычным, часам досыць складаным жыццёвым шляху народа. Асабліва ганарыцца ён помнікамі, што ўстаноўлены яго нацыянальным героям у іншых краінах. Гэта як бы міжнароднае прызнанне кладу народа ў сусветны гістарычны культурны працэс. Ёсць такія помнікі ў беларускага народа. Пакуль можна гаварыць пра тры беларускія помнікі за межамі нашай Радзімы, калі не лічыць беларускія цэрквы ў розных краінах свету, сапраўдныя шэдэўры таленавітага беларускага народа.

Найбольш вядомы помнік Янку Купалу, адкрыты 1 чэрвеня 1973 года ў Ароу-парку паблізу Нью-Йорка ў Злучаных Штатах Амерыкі. На пастаменце з чорнага паліраванага граніту ўстаноўлены бронзавы бюст вялікага беларускага паэта работы вядомага беларускага скульптара Анатоля Анікейчыка. Пастамент для помніка быў зроблены на Украіне, а сам бюст адліты ў Ленінградзе. Помнік — падарунак савецкага народа нашым суайчыннікам у Злучаных Штатах Амерыкі. Побач — раней устаноўленыя помнікі нацыянальным паэтам рускага, украінскага і амерыканскага народаў — А. Пушкіну, Т. Шаўчэнку і У. Уітмену.

Ароу-парк — невялікі ўчастак зямлі паміж гарадамі Таксіда і Манро графства Орэндж штата Нью-Йорк, які атрымаў сваю назву ад відазмененага на англійскі лад скарачэння АРРОВ — „Американско-русское рабочее общество взаимопомощи". Існуе яно з 1917 года, аб'ядноўвае тысячы нашых суайчыннікаў у ЗША і заўсёды было гатова супрацоўнічаць з Савецкім Саюзам, са сваёй гістарычнай Радзімай. Афіцыйна парк быў адкрыты ў 1948 годзе на грошы эмігрантаў.

**Сяргей Мацюнін**




## ВЯСЁЛЫ КУТОЧАК

Гарадскі вучань-першакласнік прыехаў у вёску. Вечарам ён гаварыў бабулі:

— Я бачыў дзядзьку, які рамантуе каня!

— Не можа быць... Ты нешта выдумаў.

— Не! Не выдумаў. Я бачыў, як ён ля кузні падбіваў яму ногі.

* * *

Бабуля адпраўляе ў школу Элачку і наказвае ёй:

— Глядзі, Элачка, каб у цябе сшыткі былі чыстыя.

— Якая ж ты дзіўная, бабулька, — гаворыць дзяўчынка. — А на чым я буду пісаць?..

* * *

— Мікола, я купіла табе новы падручнік. Глядзі, не запэцкай яго.

— Не хвалюйся, мама, я да яго нават і не дакрануся.

**А. ПРАЛЕСКА**

## АДГАДАНКА:

*Адшукай на малюнку дзяўчынку пад парасонам.*



## ЦІ ВЕДАЕЦЕ, ШТО?..

**Альхоўка** — узнікла ў 1757 годзе з мэтай аховы пушчанскай жывёлы дрымучай Белавежы.

**Арэшкава** — вёска, якая ўзнікла ў XVI стагоддзі э мэтай сцеражэння Белавежскай пушчы.

**Белавежа** — узнікла паміж 1670 і 1696 гадамі як малюсенькая 25-марговая асада (паселішча).

**Бельск-Падляшскі** — гарадзішча існавала яшчэ ў XI стагоддзі. Гарадскія правы Бельск атрымаў у 1430 годзе. У 1576 годзе ў Бельску было 557 дамоў.

**Боцькі** — узніклі ў першай палове XVI стагоддзя, пасля 1508 года, калі боцькаўская аколіца стала ўласнасцю беларускага магнацкага роду Сапегаў.

**Войшкі** — даўней называліся Войснямі. У XVI стагоддзі гэтай вёсцы належаў мост на Нарве. Дакумент ад 1576 года адзначае, што гэты мост папсаваны, але мае быць адбудаваны ў 1577 годзе. У XIX стагоддзі праз вёску праходзіў важны для Расійскай імперыі паштовы шлях. У Войшках была адзіная паміж Беластокам і Бельскам паштовая станцыя, на якой працавалі мясцовыя сяляне — ямшчыкі.

**Габяты** —вёска ўзнікла ў XV стагоддзі. Тут пасяліліся дробныя літоўскія баяры (шляхта).

**Гарадок** — заснаваны ў 1533 годзе на зямлі беларускага магната Хадкевіча.

**Гарасімавічы** — вёска заснавана ў 1578 годзе.

**Гаркавічы** — вёска ўзнікла каля 1560 года і называлася — Уснар. Жылі тут так званыя путнікі, якія разносілі па аколіцы распараджэнні ўлад.

**Дубіны** — заснаваны каля 1670 года з мэтай сцеражэння Белавежскай пушчы.

**Заблудава** — заснавана ў 1558 годзе на землях беларуска-літоўскага магната Хадкевіча.

**Збуч** — заснаваны ў палове XVI стагоддзя пад час валочнай памеры, якую праводзіла каралева Бона. За вёскаю знаходзіцца старажытны курган.

**Камень** — вёска, заснаваная ў палове XVI стагодзя ў выніку валочнай памеры (перамераў).

**Канюкі** — вёска калісь называлася Рыбаловы. У дакуменце ад 1576 года запісана, што вёсцы дараваны ўсе яе чыншы з прычыны вялікага градападу.

**Карыціск** — вёска, заснаваная ў XVI стагоддзі пад час валочнай памеры.

**Крушыняны** — вёска, заснаваная каля 1560 года.

**Курашава** — заснавана ў палове XVI стагоддзя пад час валочнай памеры.

**Масева** — раней тут было толькі ўрочышча Масева ў Белавежскай пушчы. Вёска заснавалася ў другой палове XVIII стагоддзя.

**Махнатае** — заснавалася ў палове XVI стагоддзя пад час валочнай памеры.

**Мора** — заснавана ў палове XVI стагоддзя Астафеем Малецкім.

**Навасады** каля Гайнаўкі — заснаваныя ў 1763 годзе з мэтай паляпшэння аховы Белавежскай пушчы.

**Нараўка** — заснаваная ў 1639 годзе нейкім Выдрам з Ліўскага старавства.

**Нарва** — гарадскія правы Нарва атрымала ў 1514 годзе, пазбавілі яе гэтых правоў у 1932 годзе. У 1576 годзе ў Нарве налічвалася 178 дамоў.

**Падрыхтаваў**

ЯСЕНЬ




Дарагое Сэрцайка! Раскажы мне, калі ласка, дзе знаходзіцца граніца людскога сумлення! У мяне ёсць знаёмы. Вельмі здольны хлопец. Ужо жанаты. Цяжка ім было адразу, дык вырашалі, што паедзе падзарабіць за граніцу. Я з прыемнасцю заўсёды глядзела на гэту пару. Жонка засталася дома, спадзявалася ўжо дзіцяці. Ён — паляцеў за мяжу.

Выпадкова мне давялося пабываць у той мясцовасці, дзе прызямліўся гэты мой знаёмы. Цяпер там працуе і мая сястра. Тое, што я ўбачыла, напоўніла маю душу агідай. Хлопец гэты поўнасцю аддаўся старэйшай, але вельмі багатай даме, якую ён задавальняў сексуальна, а яна давала яму грошы, многа грошай, дапамагла яму аформіць яго прафесіянальныя справы, увяла яго ў кампанію. Працаваць не мусіў. Сястра мне ўсё гэта расказала, і мне стала страшна. Там жа, дома, маладзенькая жонка, хутка ў іх будзе дзіця, яна ж чакае... Як ніколі нічога, той мой знаёмы перадаў праз маю сястру пасылачку сваёй жонцы, якую я мела завезці ў Беласток.

Калі я вярнулася дахаты, вядома, пасылачку перадала; але што ж можна было расказваць пра маю паездку? Мне было няёмка самой, што там усё выглядае так, як выглядае.

Прайшоў нейкі час. Нарадзілася ў іх дзіця. Яго бацька вярнуўся з-за граніцы, прывёз кучу грошай, маладая сям'я мелася добра. Я з непакоем спаглядала на іх — ці хаця нічога не разваліцца, ці будуць яны пасля ўсяго таго згодна жыць.

Як жа я мылілася! Жылі прыпяваючы. Больш таго. Сустракаю я калісь яго жонку ў знаёмых, а яна мне без ніякіх цырымоній расказвае, колькі гэта грошай прывёз з-за граніцы яе муж. І нават не мусіў працаваць, дадала яна. Проста перапсаўся пару разоў са старухай, якая ўжо не мела шанцаў. Усё яму зрабіла, што трэба, ды яшчэ мне, кажа, у пэўных справах дапамагла!

Я спыталася, адкуль яна ўсё гэта ведае. Як гэта? Ён жа сам мне ўсё гэта расказаў, сцвердзіла.

Я аслупянела. Думала, што гэта была яго нейкая таямніца, звязаная з нячыстымі справамі. А ён хваліўся гэтым перад кім? Перад жонкай, якой найбольш павінна быць неабыякавай гэта справа. А яна ж са стаіцкім спакоем, а нават з задавальненнем расказвала аб гэтым мне — зусім не найбліжэйшаму чалавеку і не саромелася!

Як жа з гэтым усім ёсць?! Дзе мяжа людской годнасці?

**Алена**

Алена! Страшнае гэта, але, як бачыш, праўдзівае. Грошы людзям засланяюць няраз свет, праз іх трацяць яны людскія пачуцці, сумленне. Упадабняюцца да звяроў. Што я гавару, я ж звяроў абражаю. Звяры за грошы (па сваёй волі) гэтага не робяць.

**СЭРЦАЙКА**

# БЕЛАРУСІЯНА НА КАРЦЕ БЕЛАСТОКА



Вуліца Кастуся Каліноўскага ў Беластоку.

Фота Я. Целушэцкага.




Дарагі Астроне! Маёй маці прысніўся такі сон. Яна сядзіць сярод зялёнай травы і раптам бачыць, як я іду з нейкім хлопцам. Яна ведае, што гэта мой муж. Я апранута ў белую вясельную сукенку, але без вэлюма. Маці пачала цалаваць майго мужа. Трэба табе ведаць, Астроне, што мне цяпер 17 гадоў і я нават не думаю ісці замуж. Ці тое, што я была без вэлюма, мае штосьці супольнае з прадказаннем маёй сяброўкі, быццам я пайду замуж цяжарнай?

Вельмі хацелася б даведацца, што абазначае гэты сон маёй маці.

**Ірына**

Міленькая мая! Ірынка! Мала каторая цяпер ідзе замуж, пакуль не зацяжарыць. Вядома: пакуль школу закончыш, прафесію здабудзеш, ды і кватэра ж тут патрэбная, дык як тут замуж выходзіць? Вось і бяруць шлюб найчасцей, зацяжарыўшы, вядома, калі ўсё добра пойдзе і хлопец згодзіцца ажаніцца. Так што нічога асабліва нязвыклага табе сяброўка не прадказала. Яна мела на думцы, што ты, пакольки была без вэлюма, не будзеш чыстай, але ж колькі „нячыстых" ідзе замуж у вэлюме, на дадатак прыкрыўшы букетам кветак высунуты наперад жывоцік?!

Думаю, што ў нейкай справе, якою жыве твая маці, паявіцца фальш. Яна зразумее, што не ўсё ёсць так, як ёй здавалася перад гэтым.

**АСТРОН**




### ПІРАЖКІ ПА-ЛІТОЎСКУ

**Цеста:** 250 г мукі, 2/3 шклянкі малака, 3 лыжкі масла ці маргарыну (50 г), 20 г дражджэй, яйка, тлушч для бляшкі, паўлыжачкі цукру, соль.

**Фарш:** 500 г кіслай капусты, 40 г сушаных грыбоў, 1—2 цыбуліны, 1,5 лыжкі тлушчу, лыжка мукі, яйка для змазвання, 40 г жоўтага сцертага сыру, соль, перац і кмен па смаку.

Грыбы памыць, намачыць, зварыць. Капусту нашаткаваць, заліць адварам з грыбоў, зварыць, не накрываючы. Абабраць цыбулю, спаласнуць, дробна нарэзаць, падсмажыць, перамяшаць з мукой. Крыху падсмажыць, тады спалучыць з капустай і пасечанымі грыбамі, а таксама са змеленым кменам, дадаць солі.

Дрожджы расцерці з цукрам часткай цёплага малака. Пакінуць у цёплым месцы на 30 мінут. Тады ўліваць іх паволі ў прасеяную муку разам з рэштай малака, пасаліць. Добра вымясіць цеста. Калі ўжо цеста адстае ад рукі сценак посуду, уліваць паволі растопленае масла, увесь час месячы.

Накрыць цеста сурвэткай і паставіць, каб падрасло. Калі яно падвоіць свой аб'ём, вылажыць яго на дошку, пасыпаную мукой, раскатаць на таўшчыню 0,5—1 см, парэзаць на палоскі шырынёю каля 10 см, класці фарш, уздоўж на кожную палоску, згарнуць так, каб спод цеста выступаў на 1 см. Заляпіць краі, перарэзаць наўкос на кавалкі 3—4 см, палажыць на бляшку, змазаную тлушчам, і паставіць , каб піражкі падраслі. Тады змазаць іх яйкам, пасыпаць сцертым сырам, запячы.

### ПІРАЖКІ З ПЯЧУРЫЦАМІ

**Цеста** — як у папярэднім рэцэпце.

**Фарш** — 600 г пячурыц, 2 цыбуліны, 4 лыжкі цертай булкі, 2 лыжкі тлушчу, 2 яйкі, зеляніна пятрушкі, 40 г жоўтага цвёрдага сыру, соль і перац па смаку.

Цыбулю і пячурыцы ачысціць, спаласнуць, нарэзаць, падсмажыць разам. Астудзіўшы, перамяшаць з 1 яйкам, цертай булкай і пасечанай зелянінай пятрушкі, пасаліць.

Далей падрыхтоўваць піражкі ідэнтычна, як у папярэднім рэцэпце.

**ГАСПАДЫНЯ**

## ЯК БЯСПЕЧНА ХАДЗІЦЬ І ЕЗДЗІЦЬ?

У Беластоку адбыліся ваяводскія школьныя элімінацыі турніра ведаў па правілах дарожнага руху. Калектыўна першае месца заваявалі вучні **Падставовай школы нумар 1 у Гайнаўцы.** Чарговыя месцы занялі школы з нумарамі **4, 36, 31 і 1 у Беластоку.** Індывідуальна найлепшымі былі вучні: **Пётр Рэцька** з Падставовай школы нумар 1 у Саколцы, **Павел Зін** з Падставовай школы нумар 1 у Гайнаўцы і **Пётр Валенцей** з Падставовай школы нумар 36 у Беластоку.

**А. ПРАЛЕСКА**

### НА ПАШЫ
(байка)

Там, дзе розум і сумленне,
Там да светлых мар імкненне,
А, дзе тупасць і гультайства,
Там — разбой і хуліганства.
* * *
Такога дзіва не бачыў я ніколі:
Пасліся два бараны на нашым полі,
Наеліся, удосталь напіліся,
Ледзве ад цяжару пляліся,
Мэкалі, бадаліся, бляялі,
Па - свойму неяк размаўлялі,
Пасля заўважылі качан гнілой
капусты —
Ды вось шкада, што ў галаве
бараняй пуста —
Не маглі ніяк капусту падзяліць
І давай адзін другога лбамі біць:
Упартым баранам нялёгка памірыцца
І прадаўжалі лаяцца, сварыцца,
Ды на такой агіднай мове:
Адзін бруд на кожным слове,
А побач мой Беб адпачываў
І шчыра ім прапанаваў:
„Годзе, бараны, вам так біцца,"
Гэтак лаяцца, сварыцца,
Адзін з бараноў уступіў у спрэчкі:
„Адкуль ты знаеш, што мы — бараны,
А можа мы — авечкі?"
----------------------------
Лёгка вас пазнаць, панове,
Па паводзінах і мове.

**АЛЯКСАНДРА ЕЛІСЕЕНКА**

### ПАРЫЖАНКІ
### І ВАРШАВЯНКІ

Француз і паляк размаўляюць аб жанчынах:

— Парыжанка, — гаворыць француз, — надзвычай прывабная, калі ёй дваццаць, непераможная ў любоўных змаганнях, калі ёй за трыццаць, чароўна шампанская да саракоўкі...

— А пасля?

— Пасля, — паціскае плячыма француз, — добрая касметыка і ўспаміны. А якія вашыя варшавянкі?

— Варшавянка, — адказвае паляк, — цудоўна прывабная, калі ёй дваццаць, проста непераможная, калі канчае трыццаць і абсалютна шампанская перад саракоўкай...

— А пасля?

— Што пасля? — здзіўляецца паляк. — Ніводная варшавянка не мае больш за сорак...








## ШКОДНЫЯ І КАНСЕРВАТЫЎНЫЯ КАЗКІ

**Дзеці маюць права на чары і дзівы. Знайсці мараль вельмі лёгка, цяжэй прыдумаць сюжэт і пачатак казкі. З інструкцыі, падрыхтаванай Міністэрствам адукацыі мы выбралі некалькі карысных варыянтаў. Будуць яны абавязваць у прадшколлях і школах, а таксама на курсах для беспрацоўных. Калі казку пачаць прыгожа — сэнс сам з'явіцца.**

**КАЗКА 1**

**Янка Вандроўнік**

Даўно, даўно таму, калі ў Бельведэры не было пана прэзідэнта Валэнсы, ні пана Вахоўскага, ні нават ксяндза Цыбулі, у Польшчы правілі кепскія фальшывыя людзі. Прыдумалі яны, што кожны чалавек мусіць працаваць. Калі хто і не хацеў працаваць, тады яго таксама бралі на работу і плацілі. Каб адно толькі на работу хадзіў. Здзекваліся над сумленнымі жыхарамі ў розныя спосабы. Высылалі на вёскі і ў гарады аўтобусы, каб вазіць на работу нешчаслівых таткаў. Давалі ім службовыя кватэры, у якіх дзеці мусілі мыць зубы, а мамы варыць на газе, які пастаўлялі нам прымусова усходнія дэспаты. Тады адзін хлопчык, якога называлі Янка Вандроўнік, захацеў быць свабодным. Нідзе ён доўга месца не сагрэў, але ўсюды змагаўся з лютым зняволеннем...

*(Працяг будзе)*

**Юлюс**

## Анекдоты

Едзе селянін на млын з мяшкамі на возе. Праходжыя яму кажуць:

— У вас, дзядзька, мяшок развязаўся.

— Ды гэта ж чортава жонка завязала. Я ўжо тры разы перавязваў, а ён усё развязваецца.

* * *

Малады муж звяртаецца да жонкі:

— Прызнайся, колькі мужчын кахала ты дагэтуль? Жонка маўчыць.

Пасля паўгадзіннага маўчання муж, перапрашаючы за нетактоўнае пытанне, усміхаецца:

— Злуеш на мяне?

— Не, — адказвае жонка, — лічу.

* * *

Паліцыянт, праверыўшы машыну, гаворыць шафёру:

— Вы п'яныя ды яшчэ на такой машыне, што ледзь трымаецца кучы...

— Я таму і выпіў, каб адважней было ехаць такою разваліна́ю.

* * *

Сустрэліся знаёмыя.

— Слухай, Антось, ты гандлюеш ліманадам, можна сказаць, вадою гандлюеш, а дом во які пабудаваў сабе! Як табе ўдалося на вадзе такі дом пабудаваць?

— Нічога дзіўнага. На вадзе ж, браток, і электрастанцыі-гіганты будуюць.

* * *

— Чаму ты ўвесь час хаваеш парасон за спіну? Баішся, што яго ўкрадуць?

— Баюся, што яго апазнаюць.

**Падборку зрабіла**

А. ПРАЛЕСКА

## СВЯТОЧНАЯ РАЗЕТКА

**Управа:** 1) дзень адпачынку, 2) „пякучка", 3) лад, 4) піражок з начынкай, 5) кніжка з аднымі вершамі, 6) ласкавая (народна-паэтычная) назва хлопца-зуха, 7) яно ўсюды вакол нас, але яго не бачым, 8) невялікая царква.

**Улева:** 1) яго п'ем, 2) махае ім бацюшка, 3) Зямля, 4) хутка зацвіце ў агародчыку, 5) раніштяя гімнастыка, 6) адгадваючы гэту разетку, быць можа будзеш ім карыстацца, 7) загорнуты ў пакет, 8) кусок, частка.




**„ядань"**

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца прышлюць у рэдакцыю правільныя адказы, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на касяк з 11 н-ра. Управа:** хамства, храсток, халат, хутар. **Улева:** хамут, хросная, ханства, халоп.

Кніжныя ўзнагароды атрымоўваюць: Уладзімір Цілюлька з Саколкі і Лукаш Пацэвіч з Беластока.

************************************************************

Ніва

„Niwa", ul.Suraska 1, 15-950 Białystok skr. pocz. 149, tel. 210-33.
Wydawca: Białoruskie Towarzystwo Społeczno-Kulturalne, 15-062 Białystok, ul. Warszawska 11,tel.435-118.
Druk: Białostockie Zakłady Graficzne w Białymstoku.

**Białoruski Tygodnik Społeczno-Kulturalny sponsorowany przez Ministerstwo Kultury i Sztuki.**

Орган Галоўнага праўлення Беларускага грамадска-культурнага таварыства.*Рэдагуе калектыў: Мікола Ваўранюк, Віталій Луба (галоўны рэдактар), Міраслава Лукша, Аляксандр Максімюк, Ян Максімюк, Яўгенія Палоцкая (кіраўнік канцылярыі), Уладзіслаў Петрук (мастак), Галіна Раманюк і Марыя Федарук (машыністкі), Ада Чачуга (адказны сакратар).*

I.Prenumerata pocztowa
1.Termin wpłat na prenumeratę pocztową na III kwartał 1992 r. upływa 20 maja 1992 r.
2.Cena prenumeraty kwartalnej wynosi 26000 zł + 6.500 zł za doręczenie.
3.Cena prenumeraty z wysyłką za granicę jest większa o 100% i przyjmowana jest tylko na okresy kwartalne. Wpłaty przyjmuje Zakład Kolportażu Prasy i Wydawnictw, Warszawa, ul. Towarowa 28.
Nr. konta PBK XIII Oddział Warszawa 370044-1195-139-11.
II.Prenumerata własna - prowadzona przez wydawcę.Cena 1 egz.z wysyłką wynosi 3000 zł..

Cena prenumeraty miesięcznej:
- maj - 15 000 zł.
- czerwiec - 12 000 zł.
- lipiec - 15 000 zł.

Wpłaty przyjmuje Zarząd Główny BTSK, Białystok, ul. Warszawska 11, nr konta NBP O/O Białystok, 5021-3203-132.